

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 11(82) Лістапад 2000 November Год выд. 8.








***ПАМЯЦЬ*** пра Слуцкі **збройны чын** заўсёды будзе з намі!!!

## 27-га лістапада – Беларускае нацыянальнае сьвята – Дзень Герояў, гадавіна Слуцкага Паўстаньня…



**Спадар *Жорж* НАУМЧЫК — актыўны нацыянальна-грамадзкі дзеяч у Саўт Рывэр, ЗША., дзейны працаўнік на ніве беларускага адраджэньня, стойкі патрыёт свайго народу.**

**Паважаны Жорж! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



Усходняя палітыка

## Шарэцкі перахоплівае палітычную ініцыятыву

# Сямён Шарэцкі заклікаў да стварэньня Часовага Ўраду Нацыянальнага Даверу.

Галасаваньне 15 кастрычніка паказала, — заявіў С.Шарэцкі, — што дыктатарскі рэжым ужо ня мае падтрымкі народу. Гэта і дае падставу Вярхоўнаму Савету распачаць фармаваньне "Часовага Ўраду Нацыянальнага Даверу, які б замяніў збанкрутаваную групу асобаў, якая незаконна ўтрымлівае ўладу і працуе на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, і разам зь Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусі арганізаваў бы сапраўды свабодныя дэмакратычныя выбары як парлямэнту, так і прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі".

Заява Старшыні Вярхоўнага Савету разам зь няўсьцешнымі для ўладаў вынікамі выбараў 15 кастрычніка прымусіла заварушыцца Маскву. А.Лукашэнка адправіўся зь візытам да У. Пуціна. Пэрспэктыва нестабільнасьці ў Беларусі кампрамэтуе расейска-нямецка-францускую ідэю пабудовы газаправоду зь Сібіры ў Эўропу праз Беларусь і Польшчу ў абход Украіны, што знайшла адлюстраваньне ў кастрычніцкіх дамоўленасьцях паміж "Рургазам" і "Газпромам".

Моц заявы С.Шарэцкага ў тым, што яна ставіць іншых гульцоў на беларускай палітычнай арэне перад фактам выяўленьня волі незалежніцкіх сілаў. Сіла яе і ў легітымнасьці Вярхоўнага Савету. Адна гэткая заява С.Шарэцкага мае больш вагі ў вачах сьвету, чым сотні адозваў проста апазыцыйных палітыкаў ці цэлых партыйных кааліцыяў, больш папулярных на бацькаўшчыне, чым Старшыня Вярхоўнага Савету. Фармаваньне Часовага Ўраду – пазытыўны крок, які надае рэальную пэрспэктыву незалежніцкаму змаганьню і робіць яго зразумелым і вартым даверу ў вачах сьвету. Крок С.Шарэцкага — спроба весьці палітыку з пазыцыі сілы.

Але заява С.Шарэцкага вытрыманая ў антырасейскім тоне. "Толькі расейскія шавіністычныя колы засталіся задаволеныя гэткім глумленьнем з дэмакратыі і зьдзекамі зь беларускага народу, — заяўляе С.Шарэцкі пра выбары. – Прычым пры ацэнцы так званых выбараў прадстаўнікі ФСБ, якія захапілі ўладу, і на гэты раз адкрыта аб`ядналіся з самымі цёмнымі камуністычнымі сіламі, да якіх належыць і сам беларускі дыктатар", — піша ён. Ён упэўнены, што падзеі кастрычніка "яшчэ раз наглядна паказалі, што без адхіленьня ад улады прарасейскага, шавіністычнага, па сутнасьці акупацыйнага ў адносінах да беларускага народу дыктатарскага рэжыму, які незаконна ўтрымлівае ўладу, нельга правесьці ніякіх свабодных дэмакратычных выбараў. Бо дыктатар і яго паплечнікі, якія зьдзейсьнілі за гэтыя гады цэлы шэраг злачынстваў, а таксама расейскія шавіністычныя колы, якія іх падтрымліваюць, ня пойдуць ні на якія пазытыўныя зьмены. Для іх вяртаньне Беларусі на дэмакратычны шлях развіцьця раўназначна сьмерці".

Чаму С.Шарэцкі такі рэзкі? Расея заплюшчыла вочы на фальсыфікацыі 15 кастрычніка, як і на папярэднія парушэньні правоў чалавека. У замежнай палітыцы яна арыентуецца на сілу і не зважае на мараль. Гэта не падлягае сумненьню. Але не падлягае сумненьню і той факт, што Масква мае вялікія і нават неабмежаваныя магчымасьці ўздзеяньня ў Беларусі.

Лідэры беларускіх незалежнікаў, на жаль, нашмат часьцей наведваюць Вену і Стакгольм, чым Маскву і Смаленск. Хоць расейскі ўплыў у Беларусі нашмат мацнейшы, чым у Сэрбіі, а зацікаўленасьць Масквы ў Беларусі — большая. Расейскія мэдыі – асноўная крыніца інфармацыі для значнай долі насельніцтва краіны. Расейскі рынак – крыніца даходаў для большасьці. Людзі ў Беларусі хочуць быць пэўныя, што палітычныя перамены, якія прапануе апазыцыя, не наробяць шкоды на ўсходнім фронце. Без такое пэўнасьці большасьць насельніцтва не рашыцца падтрымаць апазыцыю ў 2001 г. Таму беларускай апазыцыі нагвалт патрэбна публічна заявіць рэалістычную, прадуманую і ўзважаную ўсходнюю палітыку, — без капітулянцтва і падлізьніцтва перад Расеяй, але і бязь зьвягі. Расея мусіць ведаць, якімі будуць адносіны будучых беларускіх уладаў, якія гарантыі павагі ейных інтарэсаў. Вызначыўшы будучыню беларуска-расейскіх адносінаў, апазыцыя зробіць сябе прадказальным партнэрам…

Пры бескампраміснасьці ў абароне нацыянальных інтарэсаў, палітыкі мусяць быць вытрыманыя ў словах. Трэба павярнуцца да Расеі тварам і нястомна выклікаць на дыялёг. Гэта і будзе сапраўдная пазыцыя сілы. Бяз гэтага змаганьне будзе весьціся не за заўтрашнія перамены, а за вельмі далёкую пэрспэктыву. Бяз гэтага – усё адно што спадзявацца на цуд замест законаў прыроды.

Не падмацаваны ясна сфармуляванай і акцэнтаванай усходняй палітыкай, любы наймацнейшы крок беларускай апазыцыі мае шанцы вырадзіцца ў бездапаможную рыторыку.

**Барыс Тумар** (Наша Ніва)

## Каштуніца не зьбіраецца далучацца да Расеі й Беларусі

Новы прэзыдэнт Югаславіі Каштуніца, які прыбыў у пятніцу з працоўным візытам у Маскву, у інтэрв'ю інтэрфаксу шчыра заявіў, што ня бачыць сэнсу ў далучэньні сваёй краіны да Расеі й Беларусі. «Існуюць шматлікія іншыя віды супрацоўніцтва, якія ня маюць на мэце інстытуцыйнае дзяржаўнае аб'яднаньне, але забясьпечваюць узаемную выгаду», - сказаў Каштуніца. Акрамя таго, «існуе і немалая геаграфічная перашкода».

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Ambassador Michael Kozak's remarks

As delivered 9/29/00

Mr. Deputy Secretary, thank you for that kind introduction and for all of the support you have given me over the past several years. I am the living example that there is downward loyalty in this building, and you are the embodiment of that philosophy.

But I do have one minor complaint against you, Strobe. I am still paying the price for your calling us back from our anniversary, but not for the reasons you might think. The part of the story you didn't tell was that when we got home from the airport, Eileen found a beautiful arrangement of flowers courtesy of the Deputy Secretary of State. Now whenever I have to change plans, Eileen says "fine, but why can't you be more like Strobe Talbot and send me flowers?"

It is traditional at these ceremonies to reflect on one's life and career and it is well that we do so. I have been especially fortunate in my family, supervisors, colleagues and friends. But it is also difficult to do so. Few are able to find adequate words to express in front of scores of people how they feel about their parents, their spouse, their children and their friends, and unfortunately I am not one of them. So bear with me. My parents -- not by preaching or hectoring, but by the example of how they lead their lives -- set very high standards for my sisters and me. While I cannot say that I have always met those standards, at least I know what it is I am falling short of. These days, many people cannot say that. Moreover, Mom and Dad created an environment that was fun to be in. To this day, time spent with my parents is time I enjoy most. Eileen has supported me through college, law school, and during my career with the Department, and raised two outstanding boys in the process. I cannot claim to have made things easy for her. But after being married for 36 years, I still find her as interesting as I did when we were 16 years old.

The last few years in Havana she has supported my work directly as well as indirectly, and will be called upon to do so again in Minsk. The spouse of a Chief of Mission has one of the toughest assignments in the Foreign Service, and yet is given no status, authority or compensation. A simple thanks is hardly enough.

Our two sons have each excelled in their chosen fields - Dan as a computer specialist and musician, and Alex as a classics scholar. Obviously they did not inherit their talents from me! Their careers have taken them to California where we started from, which is why they could not join us today. But we are in touch almost every day, and they always have new items of interest to entertain us.

In my career, I was very fortunate to have as my first boss in the Legal Adviser's office Mark Feldman, who showed me how to accomplish things rather than merely comply with bureaucratic requirements. Monroe Leigh, one of the first Legal Advisers I worked for, instilled in us all the notion that the principles we enunciate and the degree to which the actions we take are consistent with those principles are what largely make up international law. I appreciate even more today [illegible] I did then the fact that they had the foresigh[illegible]ce to give brand new officers major substantive responsibilities for negotiations and other important activities. When I hear young officers today say that their primary activity involves securing a mind-numbing quantity of clearances on routine papers that no one important reads, it is clear to me where morale problems begin. We can and must do better in giving young officers real responsibility.

My first Ambassador was Ellsworth Bunker. I had the rare opportunity of working with him (and at times living with him when we were abroad negotiating) for four years. Those of you of my generation know just how fortunate I was to have this association. But for you younger officers, I should mention that Ellsworth Bunker was a political appointee under every President from Truman to Reagan and handled some of the most controversial and difficult diplomatic assignments of the era, including serving as Ambassador to Vietnam for seven years. Secretary Kissinger once described him as one of the two most important American diplomats of the 20th Century. (The Secretary also said that modesty prevented him from identifying the other one!)
Ambassadors Sol Linowitz, Bill Jorden, Frank Loy, Phil Habib, Larry Pezzullo and Larry Eagleburger all took me under their wings at one time or another and showed me how the real business of diplomacy and policy making is done. I got to work especially closely with Secretary Shultz, who during the dark days of the Iran-Contra affair taught the nation what honesty and loyalty in a public servant is all about. And I had the privilege of serving as Deputy to two extremely dedicated and creative Assistant Secretaries, Eliot Abrams and Bernie Aronson, who made support for democracy a vital, practical policy, not merely a slogan. The matters I worked on with each of these exceptional public servants were highly controversial and hotly debated, and my bosses were subject to intense political and sometimes personal attacks. But they never lost sight of the national purpose they were trying to pursue nor did they allow our morale to flag. The co-workers and friends who have given me hard work, good advice, tolerance and support - and a large dose of just plain fun - are too numerous to mention individually. And that is sad, because I owe them so much.

I want especially to thank my colleagues from the Congress along with those from the Executive Branch who remained supportive and active on my behalf rather than writing me off 7 or 8 years ago. Not only am I personally appreciative, but as an American am proud to bear witness that there are still people in this town who will take on an issue that offers them no political or personal reward, just because they think it the right thing to do.

Ambassador Tsepkalo, thank you for coming today and for the courtesy and patience you have shown me as I prepare for this mission. Eileen and I are looking forward to our tour in your country and furthering the relations between the two peoples. As we have prepared for this mission, I have been pleasantly surprised by the number of friends and associates who have told me of their familial ties to Belarus. I expect by the end of our tour to have many more Belarusian friends.

For the rest of you, Belarus has an interesting history. The Bieleveshkaja forest is the last remnant of the great forest that once covered much of northern Europe. It is also the last remaining natural habitat of the European Bison. The most famous Belarusian artist, Marc Chagall, was born and spent his youth in Vitebsk. At times throughout its history, Belarus has had a tradition of tolerance and ethnic and religious diversity. The Belarusian people have displayed their love for freedom and one of their most famous slogans is "for your freedom and ours." Tolerence, diversity, and a love of freedom are a good historic foundation on which to build a democracy.

As the Deputy Secretary has pointed out, the relationship between our two governments - and frankly your government's relationship with most of Europe -- is bad, and the approach adopted by your authorities with respect to the upcoming Parliamentary elections is making it worse. But as the Deputy Secretary has also made clear, if your government wants to end its isolation and bring Belarus into the mainstream of European life as a prosperous and independent democratic country, it has an excellent opportunity to do so with widespread international support. We will support the efforts of all those in Belarus regardless of political affiliation who are working for a democratic, prosperous and independent Belarus. I hope that in their own best interests and those of the Belarusian people, your authorities will show the leadership to place themselves in that category. In that case, I will look forward to cooperating with them in any way I can.

We will support the efforts of all those in Belarus regardless of political affiliation who are working for a democratic, prosperous and independent Belarus. I hope that in their own best interests and those of the Belarusian people, your authorities will show the leadership to place themselves in that category. In that case, I will look forward to cooperating with them in any way I can.

Thank you all for attending today. And again thanks to so many of you who stood by me these past several years. You are friends indeed.

# Беларускаму амбасадару ў Амэрыцы не падаюць рукі

**Вольга Бабак**

Амэрыканскія дыпляматы сёньня публічна не падаюць рукі прадстаўнікам афіцыйнае Беларусі. Намесьнік дзяржсакратара ЗША Строўб Тэлбат у Вашынгтоне не павітаўся з супрацоўнікамі беларускае амбасады, якія сярод іншых дыпляматаў прысутнічалі на цырымоніі прыняцьця прысягі новым амбасадарам ЗША ў Беларусі Майклам Козакам. Пра гэта распавяла нашым карэспандэнтам нашая калега, якая зараз жыве ў Злучаных Штатах, журналістка Ірына Курапаткіна... І гэты інцыдэнт, на думку нашае суразмоўцы, вельмі яскрава адлюстроўвае сёньняшнюю пазыцыю ЗША ў дачыненьні да афіцыйнага Менску.

У амэрыканскім сьпісе найбольш важных палітычных пытаньняў "беларускае" апошнім часам істотна наблізілася да верхніх пазыцыяў. Гэта пры тым, што ЗША й самі стаяць на парозе выбараў -- ня толькі прэзыдэнцкіх, але й выбараў у Кангрэс і Сэнат. І таму вельмі цікава тое, што палітыкі столькі ўвагі надаюць пытаньню, якое не прынясе ім ніякіх "дывідэндаў". Гаворыць Ірына Курапаткіна.

**І. К.:** Чым, на маю думку, адрозьніваецца пазыцыя Злучаных Штатаў ад пазыцыі Эўропы - гэта тое, што Злучаныя Штаты цяпер вельмі рэалістычна глядзяць на тое, што адбываецца ў Беларусі, яны ня верацць беларускім уладам, яны чакаюць канкрэтных захадаў. У адной са сваіх заяваў Строўб Тэлбат зазначыў, што яны спадзяваліся, што парлямэнцкія выбары будуць як выйсьце з палітычнага крызісу, у якім апынулася Беларусь. Аднак, палітыка беларускіх уладаў сьведчыць пра іншае: што беларуская ўлады, і Лукашэнка ў прыватнасьці, спрабуюць скарыстаць гэтую сытуацыю на сваю карысьць, а не для таго, каб нейкім чынам пасунуцца наперад у разьвіцьці дэмакратыі.

Амэрыканская дыпляматыя (як і любая дыпляматыя) заўседы пакідае адныя "дзьверы" адчыненымі -- тобок нейкую магчымасьць знайсьці кампраміс шляхам перамоваў. Аднак, калі дамоўленасьці мэтадычна парушаюцца адным бокам, гэта фармуе адпаведнае стаўленьне, -- кажа мая суразмоўца. І гэтае стаўленьне было яскрава прадэманстраванае ў часе прывядзеньня да прысягі новага амбасадара ЗША ў Беларусі Майкла Козака, што прайшло пры канцы верасьня ў Вашынгтоне. На цырымоніі прысутнічала шмат дыпляматаў высокага рангу, у тым ліку намесьнік дзяржсакратара ЗША Строўб Тэлбат. Былі й супрацоўнікі беларускае амбасады на чале з Валерыем Цапкалам. Менавіта яму як афіцыйнаму прадстаўніку нашае краіны, былі адрасаваныя два надзвычай рэзкія выступы - сп-ра Козака й сп-ра Тэлбата -- якія заявілі, што палітыка беларускіх уладаў у зьвязку з парлямэнцкімі выбарамі сур'езна ўскладняе дачыненьні паміж нашымі краінамі. Адсутнасьць якога-кольвек прагрэсу ў бок усталяваньня дэмакратыі ў Беларусі турбуе ня толькі Дзярждэпатрамэнт, але й асабіста

прэзыдэнта Клінтана, -- заявіў Строўб Тэлбат. І ЗША будуць адкрыта падтрымліваць тых у Беларусі, хто змагаецца за гэты прагрэс.

**І.К.:** Абодва выступленьні былі вельмі жорсткімі, і як мне сказаў спэцыяліст, экспэрт з ДзяржДэпартамэнту, гэта вельмі -вельмі рэдка здараецца ў часе такіх цырымоніяў. Таму што гэтая цырымонія вельмі афіцыйная, па стандартным сцэнары, які называюць "nice..." - тобок, адзін кажа: дзякуй, а вам дзякуй за дзякуй, а вам дзякуй за дзякуй зноў. А ў гэтай сытуацыі, канешне, былі сказаныя 2-3 словы добрыя, на адрас Цапкалы, таму што ён адгукнуўся на прозьбу дзярждэпартамэнту дапамагчы з інфармацыяй для спадара Козака, каб ён падрыхтаваўся перад сваей місіяй, перад прыездам ў Беларусь, каб ён ведаў гістарычную, эканамічную, палітычную інфармацыю...Аднак, пасьля гэтага рэвэрансу ў бок Цапкалы гучала вельмі жорсткая крытыка пазыцыі беларускіх уладаў. Усе прысутныя, а прысутных было шмат, гэта былі людзі з Кангрэсу, зь Дзярждэпартамэнту, амбасадары іншых краінаў прысутнічалі на гэтай цырымоніі, яны ўбачылі, як чырванее Цапкала з таго, што гэта вельмі жорсткая крытыка, якую ён пачуў у твар.

Вось гэткія крыху скандальныя варункі папярэднічаюць прыезду ў Беларусь новага амэрыканскага амбасадара. Нагадаем, ён мае прыбыць у нашую краіну 17-18 кастрычніка. Я пацікавілася ў Ірыны ейнымі ўражаньнямі ад знаёмства з амэрыканскім дыпляматам.

**І.К.:** Ён вельмі прывабны чалавек, які мне нагадвае кагосьці з галівудзкіх актораў. Ён заўседы ўсьміхаецца, і ён вельмі быў шчаслівы, таму што гэта -- ягонае першае прызначэньне ў якасьці амбасадара. Козак прыедзе сюды з жонкай, якая вельмі прыемная асоба, і нават пасьля цырымоніі ў мяне была магчымасьць падыйсьці і пагутарыць са спадаром Козакам і зь ягонай жонкай, і было цікава, што яны вучылі расейскую мову, і яна пашкадавала, сказала, што "я ня ведаю ніводнага слова па-беларуску", скажыце мне, як будзе "nice meeting you". І я сказала, што "прыемна". Калі вам нехта скажа "добры дзень, мяне завуць так, і так ", то вы скажаце: "прыемна". Таму "прыемна", -- гэта першае слова, якое жонка сп-ра Козака вывучыла на беларускае мове.

# Навучыцца жыць лепей

Гутарка Станіслава Судніка з **Вячкам Станкевічам**, сябрам рады БНР, былым дырэктарам беларускай рэдакцыі Радыё Свабоды і старшынём ТБМ Алегам Трусавым

--Шаноўны спадар Вячка, хто Вы такі мы ведаем, але каго Вы зараз рэпрэзантуеце вось у гэтым канкрэтным эпізодзе?

--В. С. Пасля дзесяці гадоў працы на радыё, а я там быў дзесяць гадоў у Мюнхене і ў Празе паўстала такая думка, што шмат было размоваў наконт сітуацыі ў Беларусі. Адчуваліся такія нараканні ці то на гісторыю, на гістарычны лёс, ці то на эканамічныя ўмовы, ці то Захад не дапамагае, ці то Масква або не дапамагае або перашкаджае. І ўвесь час нейкае такое пачуццё залежнасці, дык прышла думка, што варта было б дапамагчы, у некаторай меры выкладаць такія прынцыпы самапаляпшэння і прынцыпы здабывання асабістай незалежнасці. І тады, як я адышоў з радыё, знайшоўся час, каб папрацаваць над гэтым, падрыхтаваны падручнік і намер ёсць правесці ў Беларусі з дапамогай арганізацыі, якая вельмі актыўная і якая распаўсюджана па ўсёй Беларусі. Гэта якраз з дапамогай Таварыства беларускай мовы правесці шэраг такіх семінараў, дапамагчы зацікаўленым людзям палепшыць свой лёс. Гэта можа быць у розных сферах жыцця, гэта скажам ў фізічнай, гэта можа быць у духоўнай або ў чыста сацыяльнай сферы, у розных сферах жыцця палепшыць свой побыт. Гэтыя семінары пачнуцца сёлета ўвосені, якраз абмяркоўваем тут з Таварыствам спосабы, практычныя падыходы. Мы спадзяёмся, што на працягу года вялікая колькасць людзей пройдзе праз гэтыя семінары і гэта дасць ім такія веды прынцыпаў, якія пашыраны на Захадзе, але ў Беларусі і ў беларускай мове яны даволі абмежаваныя і такім чынам тыя людзі якія знойдуць сабе карысць у гэтых семінарах, якія палепшаць свой стан, яны тады маюць пэўны ўплыў на знаёмых, на сяброў на сям'ю і такім чынам тая залежнасць якая адчуваецца цяпер, што ўсё залежыць ад некага, яна можа пачаць спыняцца, бо людзі пачнуць думаць незалежна, асабіста незалежна.

--Так, наколькі я разумею, паколькі вы працуеце цераз ТБМ, то хто будзе выкладаць на гэтых семінарах.

--В. С. Незадоўга будзем размаўляць з кандыдатамі, якія маюць розныя падрыхтоўкі. Галоўнае, што яны маюць зацікаўленне да тых вынікаў, пра якія мы гаварылі.

--Іначай кажучы, кандыдатаў прадастаўляе ТБМ, Так? Ці прапануе ТБМ?

--В. С. Ну кандыдаты знойдзены рознымі спосабамі. І праз ТБМ таксама.

--А хто мае быць слухачамі?

--В. С. Слухачамі маюць быць зацікаўленыя людзі, якія хочуць навучыцца палепшыць свой побыт у розных сферах жыцця.

--Палепшыць свой побыт хочуць усе. Але што трэба, каб стаць слухачом семінару, трэба нешта плаціць, мець нейкую адукацыю?

--В. С. Адукацыі не. Асноўнае, што трэба мець – жаданне. Жаданне і звярнуцца да ТБМ, а ТБМ ужо выпрацуе спосабы, якімі можна браць удзел у семінарах.

--І ўсё ж гэта бясплатнае навучанне ці платнае?

--А. Т. Справа ў тым, што тут ёсць розныя варыянты. Калі чалавек хоча атрымаць падручнік, ён павінен унесці нейкія ахвяраванні ў ТБМ, бо ТБМ мела грашовыя выдаткі. Таму фактычна бясплатнае навучанне, але кампенсацыя ў выглядзе ахвяраванняў, ахвяраванні могуць быць розныя ў залежнасці ад дабрабыту чалавека, неабходна, каб праект не памёр. Таму будуць персанальныя ахвяраванні. Гэта недзе 10 тысяч новымі, а калі чалавек бяднейшы, то гэта будзе і менш. Некаторыя людзі навогул будуць вызваленыя, але я падкрэсліваю, што гэта будзе праект агульны. Такім чынам не ставіцца на мэце голая аплата, як ува ўсіх гэтых рускамоўных праектах, проста чалавек уносіць нейкія ахвяраванні на развіцце прпаекту. Сума ахвяраванняў залежыць ад яго магчымасцяў.

--Якая працягласць аднаго цыклу навучання?

--В. С. Семінар зроблены ў такі спосаб. Сам семінар, даўжыня яго шэсць гадзінаў. Ён можа праводзіцца ў адзін выхадны дзень, або, нават, у два вечары па тры гадзіны кожны вечар. І такі спосаб дае магчымасць шмат людзям задаволіць свае зацікаўленні. Але гэта толькі пачатак, бо калі скажам у чалавека зацікаўленне спыніцца ў той жа дзень, то тады вынікі будуць мінімальныя. Бо сам семінар прадбачвае, што чалавек навучыўшыся некаторых гэтых прынцыпаў пачынае сам над сабою працаваць. І тады бачны толькі вынікі, але вынікі бачныя ў залежнасці ад велічыні гэтых вынікаў. Калі нехта жадае такое меншае паляпшэнне, то гэта зусім магчыма на працягу пару месяцаў. Калі чалавек жадае асягнуць вялікіх мэтаў, дык гэта працягваецца даўжэй, але прадбачана, што будуць дапаўняльныя семінары. Для слухачоў будзе далейшы кантакт з выкладчыкамі. Гэта працэс, які працягваецца больш-менш паводле жадання тых, што будуць браць удзел у семінары.

--Так, значыць шасцігадзінныя семінары. Але яны аднатыпныя для розных груп людзей у рознай мясцовасці? Яны аднатыпныя у прынцыпе?

--В. С. Аднатыпныя, бо яны базуюцца на падставе падручніка, які быў падрыхтаваны і падручнік карыстаецца такімі ведамі, якія распаўсюджаныя і ў такой абстрактнай форме вядомыя нават шмат каму тут, але шмат меней вядомыя ў сваёй практычнай форме, як імі карыстацца, напрыклад.

--Каб людзі прышлі на гэты семінар, патрэбна пэўная рэклама. Ці ёсць які-небудзь рэкламны праект?

--В. С. Працуючы разам з ТБМ, мы забяспечым рэкламу рознага тыпу – пачынаючы з газет і заканчваючы ўлёткамі, але, што можа быць найбольш вартасным, - гэта вусная рэклама.

--А. Т. І адно з першых будзе інтэрвію нашай газеце.

--З Вашай місіяй мне больш-менш ясна. Вы хочаце навучыць нашых людзей, як ім жыць лепей. А што новага ў нашых беларусаў там, дзе яны ўжо жывуць лепей, скажам так, у тым жа Кліўлендзе?

-- В. С. У Кліўлендзе адбылася 24-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Гэта адбываецца што два гады ў розных месцах. Гэтым разам гэта было ў Кліўлендзе, дзе цэнтр, які называецца "Полацак", які існуе мо ўжо ну хіба каля 30-ці гадоў, магчыма. Цяпер сапраўды развіўся. Там вялізная зала з усімі магчымасцямі, з кухняй, з барам з вельмі харошай залай для банкетаў, нават і сцэна магчымая. Вельмі такі цікавы аб'ект. Што новае гэтым разам – гэта ўжо новазбудаваная царква, праваслаўная царква і гэтая царква робіць вельмі вялікае ўражанне.

--Як яна называецца?

--В. С. Таксама як і царква, якая ўжо даўно існуе ў Кліўлендзе, але яна меншая і ў цэнтры горада, гэта царква Божай маці Жыровіцкай... Людзі прыехалі шмат адкуль: з Канады, з розных куткоў Амерыкі, з Еўропы, ну з такіх больш вядомых людзей, хто там быў, быў Сямён Шарэцкі з Вільні. Прыехаў Зянон Пазьняк, была старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла... ну і зразумела арганізатары гэтай сустрэчы – гэта Згуртаванне беларусаў Канады і Беларуска-Амерыканскае задзіночанне (БАЗ). Ну дык вядома старшыні гэтых арганізацый: з Амерыкі Антон Шукелайць – старшыня БАЗа, а з Канады Надзея Дробіна – гэта чалавек ужо малодшага пакалення, якая прыехала я не ведаю дакладна колькі гадоў таму ў Канаду і вельмі спраўляецца з аднаўленнем арганізацыі, якая ўжо існуе таксама каля 40 гадоў, ну і іншыя прадстаўнікі грамадства і проста людзі, якія прыехалі паглядзець на праграму, сустрэцца са знаёмымі, а ў праграме былі вельмі цікавыя выступленні амерыканскіх палітыкаў. У Кліўлендзе ёсць якраз такі добры доступ да вышэйшых прадстаўнікоў амерыканскага грамадства і там быў губернатар штата Агайя Тэфт. Тэфты – гэта сям'я, якая мела некалі прэзідэнта, некалькі сенатараў і цяпер мае губернатара. Губернатар прамаўляў да беларускіх слухачоў і вель-мі добра арыентуецца ў нашых справах. Яму былі зададзены пэўныя просьбы, што сталася з тымі людзьмі, якія знікаюць у Беларусі, што з правамі чалавека ў Беларусі і, таксама, як лепей зарганізаваць дапамогу тым новым людзям, якія прыязджаюць у штат Агайя і ў Амерыку наогул. У наступны дзень выступаў сенатар штата Агайё Войнавіч. Войнавіч амаль беларускае прозвішча, але ён не ёсць беларус. Ён сербскага паходжання. Але чалавек, які вельмі добра арыентуецца ў нашых праблемах, і ён сказаў палкую прамову якраз у нядзелю. Іншыя выступоўцы былі Зянон Пазняк, Сямён Шарэцкі...

Былі мясцовыя, хор кліўклендзкі выступаў, кіруе ім Воля Лукашэвіч, была сям'я Казакоў, былі розныя выставы, прадаваліся кнігі, касеты. Быў банкет. Наступная сустрэча будзе праз два гады, напэўна ў штаце Нью-Джэрсі.

--Ну і апошняе пытанне. Мы ведаем што Вас абралі сябрам рады БНР. Як Вы пачуваецеся на новай пасадзе, якія ў Вас там ёсць абавязкі?

--В. С. Тут можна сказаць, што новая старшыня Івонка Сурвіла сапраўды аднавіла актыўнасць рады і пры тым у мінулым годзе шмат новых сяброў увайшло. Я чуюся добра. Спадзяюся, што мне дадуць заданні, якія буду выконваць.

--Дзякуй за гутарку.

## Новы, непасрэдны хуткасны цягнік з Варшавы да Вільні будзе курсаваць, пачынаючы з 29 кастрычніка.

Аднachасова будуць адмененыя два цягнікі, якія дагэтуль курсавалі ў Вільню з Варшавы праз тэрыторыю Беларусі. Адпаведна падарожныя новым цягнікам, які ўрухоміла польская чыгунка, будуць перасякаць мяжу толькі адзін раз - на памежжы Польшчы і Летувы. Прэс-сакратар Польскай дырэкцыі пасажырскіх перавозкаў Анджэй Журкоўскі сказаў, што новы цягнік запэўніць сувязь з Коўнам -- другім па вялічыні ў Летуве горадам, і з Марыямполем - курортам, які ахвотна наведваюць польскія турысты. Самае галоўнае -- новы цягнік, сканструяваны цалкам польскімі фірмамі, мае сыстэму аўтаматычнай зьмены колаў, што значна скароціць час чаканьня пасажыраў на мяжы.

Ванкарэм Нікіфаровіч, Чыкага, ЗША.

# «Я імгненьне жыву, і памру на імгненьне...»

## Да 70-годзьдзя з дня нараджэньня Ўладзіміра Караткевіча

Ён нарадзіўся 26 лістапада. Гэтая ж дата – так супала – ёсьць і дзень сьмерці вялікага сына зямлі беларускай Адама Міцкевіча, уплыў асобы і творчасьці якога Уладзімір Караткевіч адчуваў усё сваё жыцьцё. Можа таму ён так зьвяртаўся да слыннага клясіка: "Кажуць, што ў ноч на дваццаць шостага лістапада ты зьяўляешся на зямлю, якая цябе нарадзіла, і ходзіш па ёй, заглядаючы ў кожную хату, у кожную адрыну, на дно кожнага глыбокага возера... Нячутныя крокі твае, а вочы з пяшчотнасьцю нябачнай глядзяць на гэту простую і мілую зямлю..."

Гэтыя словы прыгадаліся сёлета, напярэдадні сямідзесяцігодьдзя Уладзіміра Караткевіча, і падумалася, што менавіта так ён мог сказаць і пра сябе самога. Бо ён заўсёды ёсьць і будзе разам з намі, пакуль будзе жыць наш край і яго людзі, пакуль будуць жыць беларуская мова і беларускі народ. I яшчэ адна цытата з Уладзіміра Караткевіча не забываецца:

Беларусь! Зялёная, залатая!  
Край мой сьветлы, што выпіў мора пакут!  
Да апошняй бярозы багаслаўляю  
Сьветлы дзень, калі я нарадзіўся тут!

Пражыць яму давялося толькі пяцьдзесят чатыры гады. Але Уладзімір Караткевіч пасьпеў пакінуць нашчадкам найвыдатнейшую літаратурную спадчыну, якой сёньня ганарыцца і беларуская, і сусьветная літаратура: раманы "Нельга забыць", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Каласы пад сярпом тваім", "Чорны замак Альшанскі", зборнікі паэзіі "Матчына душа", "Вячэрнія ветразі", "Мая Іліяда", п'есы "Млын на Сініх Вірах", "Званы Віцебска", "Кастусь Каліноўскі", "Калыска чатырох чараўніц", шматлікія аповесьці і апавяданьні, нарысы, найцікавейшую публіцыстыку і эсэістыку, сцэнарыі кінафільмаў. Жыцьцё і творчасьць Уладзіміра Караткевіча – сапраўдны ўзор незвычайнай самаадданай любові да радзімы, заснаванай на высокай чалавечнасьці, на канцэпцыі Чалавека ў нашым сёньняшнім разуменьні, на сучасным падыходзе да гісторыі Беларусі і барацьбы яе народу за свабоду і незалежнасьць. Сваёй палымянай творчасьцю, яе ідэйным зьместам, яе жанравым багацьцем і высокімі эстэтычнымі вартасьцямі Уладзімір Караткевіч працягваў і пашыраў традыцыі і славу беларускай літаратуры, што ішлі ад Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа.

...Мы з ім пазнаёміліся вельмі даўно, ці не на самым пачатку шасьцідзесятых, калі Уладзімір Караткевіч жыў яшчэ ў Воршы і зрэдку друкаваў вершы ў менскіх часопісах. Рыгор Барадулін у сваёй кнізе "Аратай, што пасьвіць аблокі" прыгадвае, як аднойчы ў мой дзень нараджэньня ён прыйшоў да мяне з незнаёмым цыбатым хлопцам і сказаў: "Вось табе, Ванкарэм, жывы падарунак. Знаёмся – гэта Уладзімір Караткевіч." З таго часу мы пасябравалі, і я быў бясконца ўдзячны Валодзю за незвычайную чалавечую ўвагу і шчырасьць, за гатоўнасьць у любы час прыйсьці на дапамогу. Толькі адзін прыклад: праз колькі год ён сам прыйшоў на тэлебачаньне, дзе я тады працаваў, і сказаў, што напісаў рэкамендацыю, каб мяне прынялі ў Саюз пісьменьнікаў, хоць я да яго з такой просьбай раней не звяртаўся. Многа было і сустрэч, і гутарак, і сумесных вандровак; асабліва запомніліся паездкі разам з Уладзімірам Караткевічам па Карэліцкім раёне, па Наваградчыне, дзе ён расказваў пра Адама Міцкевіча і пра многія слынныя старонкі беларускай гісторыі, а таксама сумеснае падарожжа ў Вільню, дзе ён ведаў абсалютна ўсё пра кожную вулку, будынак, узгорак, помнік, камень...

Тады, у далёкім ужо 1966 годзе, мы вырашылі стварыць на Беларускім тэлебачаньні серыю праграм, прысьвечаных літаратурным і культурным узаемасувязям Беларусі з іншымі народамі. Уладзімір Караткевіч актыўна ўхваліў ідэю, згадзіўся быць аўтарам сцэнарыя шэрагу праграмаў і прапанаваў распачаць гэты серыял перадачай пра нашы ўзаемасувязі з Літвой. Помню, якія ўсхваляваныя водгукі мы атрымалі пасьля гэтай праграмы, якую вёў Уладзімір Караткевіч і якая ішла тады ў эфіры на ўсю Беларусь і Прыбалтыку. Асаблівую цікавасьць выклікаў тады расповяд аўтара пра Вільню – калыску беларускай культуры і беларускага адраджэньня. Уладзімір Караткевіч расказваў і пра славутых дзеячоў польскай, літоўскай, яўрэйскай, рускай культур, жыцьцё і дзейнасьць якіх была звязана з гэтым горадам і гэтым старадаўнім беларускім краем. І ў той праграме, як і ва многіх сваіх творах, Уладзімір Караткевіч падкрэсьліваў традыцыйную выключную талерантнасьць беларусаў, іх спрадвечную павагу да суседзяў, жаданьне жыць з імі ў міры і дружбе. Свой верш-заклік да дружбы і братэрства розных народаў Уладзімір Караткевіч назваў сымбалічна: "Сплятайце рукі!".



Хто сказаў, што патрэбныя сьлёзы?  
Хто сказаў, што розны наш лёс,  
і таму, што насы ў нас розныя,  
ты павінен разьбіць мне нос?  
Хай ён нюхае лепей кветкі  
ці каханай сваёй галасы.  
Месца хопіць для ўсіх на палетках,  
і на ўсіх хопіць веснай красы.

На ўзьнёслыя радкі выключнай мастацкай сілы Уладзіміра Караткевіча натхнялі, апрача "Вільні ў дождж, як старая гравюра", Гародні і Магілёва, Менска і Наваградка, Воршы і Мсціслава, Полацака і Віцебска, і іншыя далягляды: Пячэрск у Кіеве і Домская вежа ў Старой Рызе, горы Арменіі, "Што крывавяць ад ран", Чатырдаг і Чуфут-Кале ў Таўрыдзе, Марыяцкі сабор і вуліца Дэшчавая ў Кракаве, слёзы фантану Бахчысарая, "быццам расінкі вясёлак з дубоў беларускіх", "кроў Іліяды, попел Польшчы кветак, Рагнеды плач і Хірасімы прах". У яго паэзію і прозу асацыятыўна ўрываліся рытмы і мелодыі Чайкоўскага, Шапэна, Шуберта, Бетховена, Манюшкі, Агіньскага, магутныя выяўленчыя вобразы Рафаэля, Рублёва, Босха, Брэйгеля, Дэга, Курбэ, Пікаса, Чурлёніса, Гойі, Шагала, Рушчыца, Драздовіча. У ягонай кватэры ў Менску можна было сустрэцца і пазнаёміцца з балгарамі Георгіем Вылчавым і Сімяонам Уладзіміравым, немцам Норбертам Рандавым, чэхам Вацлавам Жыдліцкім, славакам Душанам Слабоднікам, палякамі Фларыянам Няўважным, Янам Гушчам, Алесем Баршчэўскім і многімі іншымі, хто несьлі і сёньня нясуць у сьвет слова пра Беларусь, пра яе народ, пра яго культуру і духоўнасьць.

Уяўляецца так, што адным з найкаштоўнейшых урокаў Уладзіміра Караткевіча ёсьць менавіта гэты: можа, нашым цяперашнім працэсам барацьбы за дэмакратыю, за суверэнітэт і за незалежнасьць, за адраджэньне роднай мовы, спадчыны і духоўнасьці не хапае часам такога шырокага інтэрнацыянальнага, скажам так, пагляду, падыходу да многіх праблемаў і пытаньняў? Пагляду Максіма Багдановіча, што гучыць у ягоных слаўтых словах аб тым, што "ня толькі беларускаму народу, але і ўсясьветнай культуры..." нясем мы свой дар, - словах, якія часта любіў прыгадваць Уладзімір Караткевіч? Можа, такі падыход хутчэй будзе спрыяць так патрэбнаму сёньня на Беларусі рэальнаму аб'яднаньню ўсіх апазіцыйных рэжыму сілаў, рухаў, напрамкаў і ўсіх заклапочаных тым, каб Беларусь найхутчэй заняла "пачэсны пасад між народамі"?..

Уладзімір Караткевіч пакінуў багатую спадчыну ва ўсіх літаратурных жанрах; паступова яна прыходзіць і да новага пакаленьня чытачоў, удзельнічаючы ў фармаваньні яго нацыянальнай самасьвядомасьці. Хацелася б толькі, каб была зьвернута належная ўвага і да яго яскравых драматургічных твораў. Думаецца, што яны дагэтуль не знайшлі сваё належнае ўвасабленьне ў тэатрах Беларусі. Уладзіміру Караткевічу быў уласьцівы свой, адметны падыход да драматургіі, сваё сцэнічнае бачаньне створаных ім вобразаў. Прыгадваю, як праз колькі гадоў пасьля сьмерці Валодзі мяне ўразілі рукапіс першага варыянту яго народнай драмы "Руна пра Кастуся" і сваеасаблівая прадмова – зварот аўтара да тэатру і артыстаў, што я знайшоў у архіве Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы. Адразу ж зьдзівіла дакладнае веданьне Караткевічам прыроды і сутнасьці тэатру, законаў сцэнічнага мастацтва. Тады я і зрабіў сабе некаторыя выпіскі з гэтага "Звароту". Аўтар адразу просіць акцёраў "не іграць страсьці ў шматкі". Жанр сваёй п'есы ён вызначае як "паданьне, песьня, а людзі паданьняў павінны быць значна цішэйшымі, чым жывыя, больш задушэўнымі і стрымана рамантычнымі". Цікавая заўвага Уладзіміра Караткевіча пра народныя сцэны: "За ўсім гэтым павінна цьвёрда праглядваць веліч, бо яны – звычайныя людзі – героі трагедыі, хоць самі і не разумеюць гэтага". I далей драматург удакладняе: "Нашы героі проста людзі, выключныя людзі, вельмі страсныя, добрыя і чалавечныя. Яны робяць тысячы памылак, але з гэтай прычыны яны нам больш дарагія, бо іхнія памылкі таксама ад любові... Усе ў п'есе павінны быць людзьмі. Людзі – вось што галоўнае... Людзі, скутыя адным ланцугом... Людзі, якія жылі сто год назад, але якіх мы разумеем, магчыма, лепей, чым сучаснікаў."

Ня ўпэўнены, ці надрукаваны дагэтуль гэты "Зварот" Уладзіміра Караткевіча. Лічу, што і ён, як і многае напісанае нашым выдатным творцам, гучыць з кожным годам значна шырэй, актуальней, асабліва з пункту гледжаньня сёньняшняй сацыяльна-культурнай сітуацыі ў Беларусі.

Давайце ж сёньня, успамінаючы Уладзіміра Караткевіча з нагоды яго сямідзесяцігодьдзя, аддаючы належнае ягонай літаратурнай спадчыне, не ўяўляючы без яго нашу беларускую духоўнасьць, прыслухаемся яшчэ раз да яго ўрокаў-запаветаў. А гэта значыць, будзем рабіць усё, каб наблізіць зьдзяйсьненне яго самай запаветнай мары: "Толькі б вечнае шчасьце каханай старонцы маёй".

---

**Ганаровы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч лічыць, што апазыцыйным і незалежным грамадзка-палітычным сілам Беларусі неабходна зноў разгледзець пытаньне пра аб'яднаньне перад будучымі прэзыдэнцкімі выбарамі.**

Як лічыць сп. Багданкевіч, новая апазыцыйная кааліцыя, у якую змогуць увайсьці ўсе апазыцыйныя партыі -- ад камуністаў да БНФ -- а таксама ўсе незалежныя арганізацыі трэцяга сэктару й найбольш вядомыя і ўплывовыя палітыкі, павінная базавацца на левацэнтрысцкай праграме. Гэты выбарчы блёк, паводле ягоных словаў, неадкладна павінен прапанаваць грамадзкасьці дзьве-тры кандыдатуры на пасаду прэзыдэнта, сфармаваць передвыбарны штаб і распрацаваць праграму канкрэтных дзеяньняў. Як мяркуе ганаровы старшыня АГП, пачатак гэтаму працэсу пакладзены ўжо стварэньнем шэрагам незалежных палітыкаў Грамадзянскага камітэту "Выбар-2001".

---

**Набліжаюцца Каляды і канец году – калі ласка, не забывайце пра нашу газэту...**

Ванкарэм Нікіфаровіч, Чыкага, ЗША.

# "Усё навокал — у чаканьні сонца..."

Нядаўна ў выдавецтве "Metropolitan Arts Press" выйшла новая кніга вершаў Хрысьціяна Наркевіча-Лэйна, якая мае назоў "Балтыйскія гадзіны". Шмат твораў у ёй прысьвечана Беларусі, непасрэдным уражаньням ад наведваньняў аўтарам зямлі сваіх продкаў.

Хрысьціян Наркевіч-Лэйн – вядомы ў Амерыцы архітэктар-дасьледчык, заснавальнік і дырэктар унікальнага музею архітэктуры і дызайну – The Chicago Athenaeum. Толькі некалькі гадоў таму ён дазнаўся, што продкі ягоныя – беларусы, што паходзіць ён з сям'і вядомага беларускага навукоўца і асьветніка Ёдкі-Наркевіча. З таго часу ў яго ўзьнікла неадольная цікавасьць да Беларусі, да сваіх вытокаў… Вялікі рэзананс у ЗША і ў іншых краінах сьвету набыла арганізаваная Хрысьціянам Наркевічам-Лэйнам выстава малюнкаў беларускіх дзяцей "Дзеці Чарнобыля".

Сымбалічна, што на вокладку кнігі сваёй паэзіі Хрысьціян Наркевіч-Лэйн зьмясьціў вельмі рэдкі фатаздымак 1910 году: ягоны продак Вітальд Ёдка-Наркевіч зьняты з групай музыкантаў каля свайго дому ў Наднямоньні, блізка Узды.

Прапаную ў сваім перакладзе з ангельскай мовы некалькі вершаў з новай кнігі Хрысьціяна Наркевіча-Лэйна.



**Хрысьціян Наркевіч-Лэйн**
З новай кнігі вершаў "Балтыйскія гадзіны"

Лістапад, 6

Аляксандру Іосіфавічу Харкевічу,
дырэктару тэатра імя Я. Коласа,
забітаму ў Віцебску
6-га лістапада 1997 года.

Мне не забыць ніколі твае вочы,
хоць час няўмольны доўга не знаёміў
з табой маю сьвядомасьць.

Цяпер жа ты ізноў са мною разам.
Я чую уначы тваё дыханьне,
усхваляваны голас твой, нібыта
ты размаўляеш ў сьне альбо на яве.
Я не магу сказаць, што адбылося:
мо сонца запаволіла свой бег,
а час імклівы ўсё ляціць наперад,
і нават – гэта дзіўна! – без цябе.

Але магу вярнуцца я туды,
у тыя дні і ночы, перад тым
як уздыхнуў ты у апошні раз
і ўпаў, адчуўшы той удар у скронь…

Яшчэ магу, бы зрушыўшы скалу,
убачыць прывід, што мацней за сон:
ідзеш па вулках Віцебска ты зноў.
Зямля лясоў глядзіцца ў твае вочы,
прывабна сьвеціцца твая усьмешка…
А ўсё навокал – у чаканьні сонца.

**Раніца ў Менску**

Я гдяджу на цябе.
Прывід у раньнім сьвітаньні.
За заслонай празрыстай
толькі ценяў мільганьне
і сьвятло ад бялюткага сьнегу…

Я ведаю: мацней за ўсё любоў.
І не таму, што палка гаварыў.
І не таму, што зьдзейсьніў абяцаньні.
І не таму, што мары ўсе збыліся
і запаветам цешацца нашчадкі.
А ўсё таму, што ведаў: ёсьць любоў,
якую нельга параўнаць ні з чым.

Ты, - я адчуў, - тут, побач.
Прывід у раньнім сьвітаньні.
За заслонай празрыстай
толькі ценяў мільганьне
і сьвятло ад бялюткага сьнегу.



**Ліст з Наваградку**

Навек у памяці ўся веліч краявідаў.
Заходзіць сонца, як у дзіўнай казцы.
Лясы, што караблі, плывуць удалеч.

Калі глядзеў на гэту прыгажосьць,
уласнага дыханьня не хапала…

Ці зможа хто ўратаваць мяне?

**Сьвята Купалы**

У лесе тым усё было дзівосна:
адкрылася паляна ў гушчары,
а над прывольлем – толькі маладзік
бліскучы, нібы поўню ўзяў падпаху…
Сяляне ўсе - у крывіцкіх уборах.
Гармонік грае, выпіта гарэлка,
гамонка не сьціхае. Завяршыўся
той самы доўгі дзень.

І я з усімі ў гэтай крутаверці.
Каронаю на галаве – вянок з лістоты, -
паданьням адпаведна, я тут – цар.
Агонь шугае ў неба вышай дрэваў,
іскрынкі угары – нібыта пчолы.
Я – Купідон. Я – Дэман. Завіруха
імклівых скокаў моцна падхапіла
ў шчасьлівым ап'янелым захапленьні,
раскрыжавала, як Хрыста, узнесла ўгору,
душу выратавальна апаліўшы…

Трава і дрэвы, цені і праменьні –
ў шалёным карагодзе. У абдымках поўні
згубіўся ўсхваляваны маладзік…
Зрабілася крыху халаднавата,
а вось і дожджык дробны зацярусіў.
Але натоўп на гэта не зважае.
У гэты час, якраз пасярод лета
сьвятлом зіхоткім золак апранае
сваім празрыстым саванам усіх
і рассыпае першыя праменьні…

Зьнікае ўся зьнямога і стамлёнасьць,
на тварах зноў з'яўляюцца усьмешкі.
Дзяўчаты, памаліўшыся нябёсам,
бягуць да рэчкі і вянкі кідаюць
у вір імклівай плыні. Чый вянок
хутчэй сустрэнецца? Хто выйдзе замуж першай?
Каму шчасьлівы усьміхнецца лёс?

Сонца ўсё вышай. Ранішняй расою
абмыўшы твар, зьбіраемся дадому.
Сьпяваюць птушкі, вестуны надзеі,
здаецца, ціха дыхае зямля.
А ў сэрцах засталіся запытаньні:
ці атрымалі мы адказ той ноччу?
Што прынясе нам зноў няўмольны лёс?

Пераклаў Ванкарэм Нікіфаровіч

# Пажывем - пачуем

**Галіна Жарко** (Радыё Рацыя)

Расея не на жарт занятая абмеркаваньнем варыянтаў новага гімну. Складанасьць сытуацыі ў тым, што гімн, па ідэі, павінны слугаваць кансалідацыі расейскага грамадзтва, як і ўсялякага іншага. Але атрымліваецца якраз наадварот. Раскалоўшыся на непрымірэнчыя групоўкі, Расея спрачаецца, і аргумэнты прыводзіць самыя фантастычныя. Паміж гімнам "Боже, царя храни!" ды былым савецкім гімнам на музыку Аляксандрава й словы Міхалкова й Эль-Рэгістана быў яшчэ "Інтэрнацыянал". Кожны з расейскіх гімнаў азначаў ідэйнае пераасэнсаваньне дзяржаўнасьці, новае яе трактаваньне. І ня здолеў прайснаваць болей за некалькі дзесяцігодзьдзяў. Весьцячы якую ідэю, "загучыць" расейскі гімн чарговым разам?

Колішні гімн "Боже, царя храни!" на словы Жукоўскага вызначаў кансэрватыўна-рамантычную канцэпцыю расейскае імпэрыі (самадзяржаў'е, праваслаўе, народнасьць). "Інтэрнацыянал" прэзэнтаваў касмапалітычную рэвалюцыйную рэспубліку, гімн Міхалкова - сталінскую савецкую імпэрыю, камуністычную дзяржаву. Што зайграе Расея зараз, і якая нам, беларусам, да гэтага справа? Выходзячы з таго, што мы заўсёды актыўна падпявалі, праблема расейскага гімну зусім нам не чужая.

Пытаньне новага расейскага гімну абмяркоўваецца актыўна й на вышэйшым роўні. Да абмеркаваньня далучыўся ў сераду й Грыгорый Яўлінскі. Лідэр фракцыі "Яблоко" на паседжаньні Дзярждумы зрабіў заяву, што выкарыстаньне музыкі старога гімну СССР для новага гімну Расеі немагчымае. Дзеля вобразнасьці палітык паставіў ідэю адраджэньня музыкі Аляксандрава ў адзін шэраг зь ідэямі ўзнаўленьня помніка Дзяржынскаму на Лубянцы й варты №1 каля маўзалею Леніна. Бюро Цэнтральнага Савету Аб'яднаньня "Яблоко" падтрымала свайго лідэра й запрапанавала выкарыстаць у якасьці расейскага гімну марш 1914 году "Разьвітаньне славянкі". А задуму адрадзіць музыку савецкага гімну "Яблоко" лічыць абсалютна не бяскрыўднаю, але наадварот - крокам да аднаўленьня зусім не сымбалічных элемэнтаў таталітарнае сыстэмы.

Усё можа быць, улічваючы асабістую прыхільнасьць Уладзіміра Пуціна да старога савецкага гімну, словы да якога напісаў і перапісаў Сяргей Міхалкоў - і праз тое атрымаў нават мянушку гімначыста. Словы старога савецкага гімну першапачаткова былі прысьвечаныя вялікаму правадыру ўсіх часоў і народаў - Сталіну. Калі высьветлілася, што бацька родны апынуўся горшым за айчыма, савецкі гімн пачалі йграць бяз словаў. Дарэчы, зараз ён таксама гучыць бяз словаў, калі на свае ўрачыстыя сустрэчы зьбіраецца кіраўніцтва саюзнае расейска-беларускае дзяржавы. Але словы лёгка могуць зьявіцца. Прынамсі, Сяргей Міхалкоў яшчэ жывы й дастаткова працаздольны. У эпоху брэжнеўскага сацыялізму ён лоўка прыглушыў таталітарную сталінскую канцэпцыю й высунуў на першы плян дактрыну "брацкае сямьі народаў", якая жыве ў атмасфэры дабрабыту й шчасьця. Пад музыку гэтага гімну з рознымі словамі, ці бяз словаў, штодня ўставала раніцою на новыя працоўныя перамогі ўся "широкая" краіна. І гэтаксама найбольш талерантная ейная частка, тобок мы, -- у першых шэрагах. Савецкая дзяржава паклапацілася пра тое, каб як мае быць убіць у галовы свой гімн. "И Ленин великий нам путь озарил". Усяго два дзесяцігодзьдзі пасьпявала хорам перароблены Міхалковым гімн "брацкая сямья народаў". І зь вялікай і дружнай ператварылася ў няпоўную. Але нястомны байкапісца гатовы перарабіць "гумавы" тэкст яшчэ раз. Зрэшты, ня толькі ён. Мяркуючы па ўсім, жыхары Расеі абсалютна нармальна ставяцца да таго, што пад музыку Аляксандрава можна сьпяваць іншыя словы. На патрэбу дня. Словы гэтыя празь нейкі час ізноў прыйдзецца мяняць, але гэта ня будзе ўжо вялікаю праблемаю. Магчыма, аўтар словаў новага расейскага гімну пакіне месца ў ім і для ўхвалы новай сямьі народаў. Папраўдзе ж, гімн - рэч зусім не бяскрыўдная…

# Сэнсацыйны выступ беларуса на канфэрэнцыі АБСЭ

**Уладзімер Кобец ад імя Хартыі'97 і Міжнароднай Лігі правоў чалавека выступіў 18 кастрычніка на штогадавай канфэрэнцыі АБСЭ па чалавечаму вымярэньню, якая праходзіла гэтымі днямі ў Варшаве. Выступ быў прысьвечаны пасьпяховай кампаніі байкоту «выбараў» 15 кастрычніка. У ім Уладзімер Кобец падзякаваў АБСЭ і іншым міжнародным структурам за падтрымку дэмакратычных сілаў і заклікаў іх не прызнаваць новую палату.**

**Трэба азначыць, што выступ прадстаўніка аб'яднанае апазыцыі стаў зусім нечаканым для афіцыйнай беларускай дэлегацыі. Удзельнікі канфэрэнцыі ж прынялі яго вельмі цёпла і праводзілі апладысмэнтамі.**

# Лес крыжоў

*Таварыства "Мартыралёг Беларусі" хоча, каб на кожнай курапацкай магіле быў устаноўлены крыж*

Сябры "Мартыралёгу Беларусі" заклікалі грамадзкасьць распачаць акцыю ўсталяваньня крыжоў у Курапатах. Першыя крыжы будуць укапаныя ў зямлю гэтага жалобнага месца на Дзяды. Па колькасьці пахаваньняў крыжоў мусіць быць больш за шэсьцьсот. Курапацкі лес крыжоў мусіць нагадваць людзям аб ахвярах сталінскага рэжыму, што ляжаць у тых магілах, аб тым, як свае забівалі сваіх...

У Літве ёсьць гара крыжоў, што стыхійна паўстала за 100 гадоў на месцы патаемнага пахаваньня паўстанцаў 1863 году. Спачатку забітых інсургентаў проста прысыпалі пясочкам – каб ня ведалі акупанты, не маглі па трупах пазнаць імёны паўстанцаў і вывезьці ў Сібір іхных сваякоў. Пасьля, з гадамі, на месцы сакрэтных пахаваньняў сваякі, сябры, каханыя сталі ставіць крыжы. Вырасла гара крыжоў. 600 крыжоў, лес крыжоў у Курапатах нагадвалі б нам пра страшныя гады.

На пытаньні карэспандэнта "Нашай Ніве" адказвае сябра "Мартыралёгу Беларусі", старшы навуковы супрацоўнік аддзелу археалёгіі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук Мікалай Крывальцэвіч.

— Гэта вельмі старая ідэя, што Курапаты павінны быць мэмарыяльным месцам. Аднак усе пагаджаюцца з тым, што Курапаты не павінны ператварацца ў мэмарыял у савецкім разуменьні гэтага слова. Гэтае месца павінна застацца такім лесам, які ён ёсьць сёньня. Іншая рэч, што ўсе тыя мэмарыяльныя знакі, якія там узьнікаюць, і курапацкі Крыж, і шыльда з надпісам, і каменная лаўка, што паставілі падчас прыезду Клінтана, крыжы абапал дарогі, усе гэтыя сымбалі — курапацкі мэмарыял. Але павінны і самі магілы нечым пазначацца, бо пакуль толькі некаторыя зь іх бачныя як западзіны ў зямлі, якія зарастаюць кустоўем і травою, а тыя магілы, якія рабаваліся вандаламі – губляюцца ў рэльефе пасьля ўсіх перакопаў і засыпак. Таму трэба гэтыя магілы пазначыць.

Былі розныя прапановы на гэты конт – напрыклад, сьцежачкі пракласьці да кожнай магілы, але пакуль найбольш прыймальны варыянт – пазначыць іх крыжамі, згодна з усімі традыцыямі. Крыж павінен быць заўважным, у рост чалавека. Калі крыжы будуць пастаўленыя на ўсіх магілах, то Курапацкі лес будзе ператвораны ў лес крыжоў. Гэта вельмі істотны псыхалягічны момант, бо наведвальнікі будуць сапраўды адчуваць, што яны прыйшлі на месца, дзе шмат людзей ляжыць у зямлі. Бо большасьць людзей успрымае гэты лес толькі па тым адзіным крыжы і сьцежцы. Людзі не ўсьведамляюць, што лес – гэта месца, дзе вяліся расстрэлы, што гэтае месца – сьвятое. Яно мусіць быць напамінам аб тым, што там адбывалася.

Мы спадзяемся на шырокую грамадзкую акцыю падтрымкі нашае ініцыятывы, гэта ня проста наведваньне курапацкіх магілаў, гэта будзе вельмі важная акцыя ўшанаваньня, калі мы будзем ставіць на Дзяды па некалькі крыжоў у год.

**— Хто мае ставіць гэтыя крыжы? Ці толькі сябры "Мартыралёгу Беларусі" і "Хрысьціянскай злучнасьці Курапаты"?**

— Я мяркую, што ўсе зацікаўленыя людзі павінны гэтым займацца. Ёсьць узор такога крыжа, і калі ўлічваць яшчэ тое, што ён павінен быць нечым прапітаны, каб даўжэй стаяў, а ўнізе абмазаны смалой, то кожны можа сам замовіць ці зрабіць такі крыж, прынесьці і паставіць яго разам з усімі на Дзяды ці ў які іншы памінальны дзень. Гэта будзе дабрачынным грамадзкім учынкам. Я мяркую, што акцыя ўстаноўкі крыжоў павінна ў першую чаргу быць грамадзкай, а не арганізаванай намі.

Я бяру на сябе толькі функцыі каардынатара гэтых работ. Я быў бы рады, каб гэтым больш людзей займалася, быў бы рады, калі нехта далучыцца да гэтае акцыі. Я заўсёды казаў, што менш за ўсё спадзяюся на ўлады, я нават баюся ўмяшальніцтва ўладаў, бо яно ператворыцца ў фарс, як гэта заўсёды адбываецца. Любая падобная ініцыятыва павінна сыходзіць ад звычайных людзей, я нават нікога не заклікаю і не агітую, проста раблю тое, што лічу патрэбным зрабіць. Калі нават ніхто не далучыцца, я знайду магчымасьць зрабіць гэтыя крыжы, знойдуцца блізкія мне людзі, якія пойдуць і паставяць гэтыя крыжы, якія паставяць сьвечкі, прыбяруць магілы, пачысьцяць сьцежкі і гэтак далей. Я ня буду зьвяртаць увагу на тое, як да гэтага ставіцца афіцыёз. Дарэчы, мы пэрыядычна самастойна праводзім дабрачынныя акцыі па прыбіраньні тэрыторыі і навядзеньні элемэнтарнага парадку на Курапацкіх могілках. Кожны год вывозім перад Дзядамі па машыне сьмецьця. Там па-ранейшаму людзі п'юць гарэлку, паляць вогнішчы, бывае, што проста на магілах. Людзі яшчэ ўспрымаюць мэмарыялы па савецкай звычцы, праз манумэнты, праз форму, якая адпавядае іх уяўленьням аб мэмарыяле — асфальтаваныя сьцежкі, стэлы з надпісамі... Калі гэтага няма, проста лес — людзі не разумеюць, што гэтае месца трэба шанаваць.

Магіла з крыжам – гэта вельмі сталы і моцны сымбаль, які ўспрымаецца адназначна. Я размаўляў з тымі людзьмі, што п'юць гарэлку ў Курапацкім лесе, дык яны кажуць: "Я ня бачу, дзе тут мэмарыял, зрабеце яго як Хатынь, тады й будзем шанаваць". Хоць гэтае месца сапраўды ўзятае пад ахову дзяржавы ў 1993 годзе і прызнанае месцам масавага забойства людзей. Мы тады дабіліся гэтага.

**— Ці ня могуць першыя крыжы быць пастаўленыя да Дзядоў?**

— Мы не хацелі б, каб гэтая акцыя адбывалася стыхійна, каб кожны калі хацеў, тады і ўкопваў крыж, бо ня ўсе могуць ведаць, дзе гэтыя магілы. Калі мы працавалі над эксгумацыяй, мы зрабілі падрабязны плян, дзе знаходзіцца кожная западзіна. Хацелася б, каб акцыя адбывалася ў пэўныя дні — у памінальныя дні — на Дзяды і на Радуніцу, тады гэта набывае пэўны палітычны і сакральны сэнс.

**— Улічваючы, як проста вырабіць і паставіць крыж, ці патрэбная вам нейкая грашовая дапамога?**

— Мы не чакаем ніякіх фундацыяў, але, вядома, сродкі патрэбныя — на выраб, на транспартаваньне. Мы самі зьбярэм грошы. Мы ўжо сабралі пэўную суму, калі будзе трэба, яшчэ зьбярэм. Зацікаўленыя ў матэрыяльнай падтрымцы нашае акцыі няхай зьвяртаюцца па маім працоўным тэлефоне (017) 284-13-22.

**— Вы займаецеся дасьледаваньнем Курапацкага мэмарыялу з канца 80-х гадоў. Чаму ідэя паставіць там крыжы прыйшла толькі зараз?**

— Раней не было вялікай патрэбы акцэнтаваць увагу на Курапатах. Думалася, што зь цягам часу сасьпеюць нейкія ідэі ці ініцыятывы па ўшанаваньні гэтага месца. Але так здарылася, што з кожным годам усё менш і менш увагі аддавалася гэтай тэме. Людзі паціху забываліся на Курапаты. Больш за тое, ужо было некалькі спробаў перагледзець курапацкую справу з адпаведнай мэтай. Дзеля палітычнае кан'юнктуры — схіліць грамадзкасьць да думкі, што там вялі расстрэлы фашысты й гэтак далей. Гэта ўсё мусіла падарваць значэньне Курапатаў у сьвядомасьці людзей. Таму ёсьць патрэба актывізаваць намаганьні ў гэтым кірунку. Курапаты – гэта напамін пра ахвяры, пра рэпрэсіі, гэта самае страшнае, што можа здарыцца ў грамадзтве. І гэта надзвычай актуальна і ў наш час. Мне падаецца, што менавіта праз такія дзеяньні трэба падтрымліваць памяць грамадзтва аб гэтай падзеі.

**— Колькі крыжоў зьявіцца ў Курапатах на гэтыя Дзяды?**

— Колькі атрымаецца зрабіць. Я думаю, нямнога, калі іх тры будзе, то й добра. Мы не імкнемся адразу нарабіць сотні крыжоў, гэта ня мае сэнсу.

**— Ці можа звычайны чалавек, я, ён, яна, самастойна зрабіць ці замовіць крыж паводле эскізу і прынесьці яго на Дзяды?**

— Вядома, калі ласка, мы такую дапамогу прымем з задавальненьнем.

**— Які ўдзел у гэтай акцыі "Мартыралёгу Беларусі" і "Хрысьціянскай злучнасьці Курапаты"?**

— Калі ў 1988 годзе пачаў ствараццa "Мартыралёг Беларусі", у яго ўвайшла ўся тагачасная беларуская нацыянальная эліта. Потым яны разышліся па іншых арганізацыях і партыях, але ніхто зь сябе не складаў абавязку ўдзелу ў "Мартыралёгу Беларусі". Іншая рэч, што з прычыны бясконцых перарэгістрацый "Мартыралёг Беларусі" юрыдычна спыніў існаваньне. Мы існуем незалежна ад таго, што адбываецца ў арганізацыйна-фармальнай сфэры. Што рабілі, тое й робім – інфармацыю зьбіраем, за Курапатамі даглядаем.

А з "Хрысьціянскай злучнасьцю Курапаты" мы плянуем у суботу, 21 кастрычніка, прыбраць тэрыторыю мэмарыялу ад сьмецьця, так што ахвотныя няхай далучаюцца.

**— Колькі ўсяго крыжоў вы плянуеце паставіць?**

— Паводле папярэдніх падлікаў, у Курапатах знаходзіцца больш як шэсьцьсот западзін, і іх можна лічыць магільнымі западзінамі. Але магілаў было яшчэ больш, бо частка была зьнішчаная дарогамі, лесапасадкамі, газаправодамі… Гэта рэальна, бо гэта будзе рабіцца кожны год, бо гэта будзе падтрымана, ня будзе падтрымана – то мы самі будзем гэта рабіць. З году ў год.

**— Драўляны крыж – рэч нетрывалая, вандалы могуць лёгка яго зьнішчыць.**

— Мы ведаем, што гэта можа здарыцца, я толькі спадзяюся, што на крыж рука не падымецца. Сымбаль крыжа ўсё ж устрымлівае людзей ад гвалту. Я нават спадзяюся, што гэта дапаможа абараніць магілы ад вандалаў.

**Гутарыў Андрусь Белавокі**

"Наша Ніва"

# Расея згубіла Югаславію. Згубіць і Беларусь

"Беларусь, безумоўна, не Югаславія — гэта памежная з Расейскай Фэдэрацыяй краіна, але сёньняшняя палітыка расейскага кіраўніцтва ў адносінах да Беларусі паўтарае сытуацыю ў пляне ўзаемаадносінаў з Югаславіяй".

Такі пункт гледжаньня дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, член камісыі па міжнародных справах Аляксандр Шпілеўскі выказаў 7-га кастрычніка ў інтэрв'ю аналітычнай праграме "Панарама" беларускага тэлебачаньня, паведаміў БелаПАН.

Апошнія падзеі ў Югаславіі ён лічыць вынікам "бяздарнай палітыкі расейскага кіраўніцтва, якое пакінула краіну адзін на адзін з заходнімі краінамі і Штатамі і якое не аказала ніякай рэальнай дапамогі — ні палітычнай, ні эканамічнай — гэтай краіне". У адносінах зь Беларусьсю, заявіў Шпілеўскі, "расейскае кіраўніцтва спрабуе наступіць на тыя ж граблі". "Яно старціла сёньня Балканы, гэта адназначны факт. Для Расеі Балканаў больш няма". "Расейскае кіраўніцтва павінна дакладна ўсьвядоміць, што яно страціць уплыў і ў Беларусі, — лічыць дэпутат. — Я абышоў 7 ці 8 тысячаў чалавек насельніцтва, я адчуў, што да аб'яднаньня Расеі і Беларусі мяняецца стаўленьне, што самае страшнае. Я, перакананы прыхільнік саюзнай дамовы і адзін з удзельнікаў яго падрыхтоўкі, заўтра, калі кіраўніцтва зьменіць вэктар палітыкі ў бок заходняй, стану першым, хто падтрымае палітыку кіраўніцтва ў гэтым кірунку".

КАНЧАТКОВЫ ЛІК МЭДАЛЁЎ

300 medal events

| Country | G | S | B | Tot |
|---|---|---|---|---|
| United States | 39 | 25 | 33 | 97 |
| Russia | 32 | 28 | 28 | 88 |
| China | 28 | 16 | 15 | 59 |
| Australia | 16 | 25 | 17 | 58 |
| Germany | 14 | 17 | 26 | 57 |
| France | 13 | 14 | 11 | 38 |
| Italy | 13 | 8 | 13 | 34 |
| Cuba | 11 | 11 | 7 | 29 |
| Britain | 11 | 10 | 7 | 28 |
| South Korea | 8 | 9 | 11 | 28 |
| Romania | 11 | 6 | 9 | 26 |
| Netherlands | 12 | 9 | 4 | 25 |
| Ukraine | 3 | 10 | 10 | 23 |
| Japan | 5 | 8 | 5 | 18 |
| Hungary | 8 | 6 | 3 | 17 |
| Belarus | 3 | 3 | 11 | 17 |
| Poland | 6 | 5 | 3 | 14 |
| Canada | 3 | 3 | 8 | 14 |
| Bulgaria | 5 | 6 | 2 | 13 |
| Greece | 4 | 6 | 3 | 13 |
| Sweden | 4 | 5 | 3 | 12 |
| Brazil | 0 | 6 | 6 | 12 |
| Spain | 3 | 3 | 5 | 11 |
| Norway | 4 | 3 | 3 | 10 |
| Switzerland | 1 | 6 | 2 | 9 |
| Ethiopia | 4 | 1 | 3 | 8 |
| Czech Republic | 2 | 3 | 3 | 8 |
| Kazakstan | 3 | 4 | 0 | 7 |
| Kenya | 2 | 3 | 2 | 7 |
| Jamaica | 0 | 4 | 3 | 7 |
| Denmark | 2 | 3 | 1 | 6 |
| Indonesia | 1 | 3 | 2 | 6 |
| Mexico | 1 | 2 | 3 | 6 |
| Georgia | 0 | 0 | 6 | 6 |
| Lithuania | 2 | 0 | 3 | 5 |
| Slovakia | 1 | 3 | 1 | 5 |
| Algeria | 1 | 1 | 3 | 5 |
| Belgium | 0 | 2 | 3 | 5 |
| South Africa | 0 | 2 | 3 | 5 |
| Morocco | 0 | 1 | 4 | 5 |
| Taiwan | 0 | 1 | 4 | 5 |
| Iran | 3 | 0 | 1 | 4 |
| Turkey | 3 | 0 | 1 | 4 |
| Finland | 2 | 1 | 1 | 4 |
| Uzbekistan | 1 | 1 | 2 | 4 |
| New Zealand | 1 | 0 | 3 | 4 |

і далейшы пералік краінаў...

# СЭНСАЦЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

Андрусь ЛАТЫШЭВІЧ (Свободные Новости)

Мы ўжо паведамлялі пра тое, што ідэю аб стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэта Міністэрства адукацыі пакінула ў падвешаным стане.

І вось — сэнсацыя! На Беларусі зьявіцца першая ў гісторыі нашай краіны ВНУ, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца на беларускай мове. Нарэшце. Не прайшло і 10 гадоў...

Расказвае прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы" Алесь ЛОЗКА:

— Днямі адбылася размова з рэктарам БДУ А.Казуліным і прарэктарамі. Мы абмяркоўвалі ідэю стварэння пры БДУ вышэйшай навучальнай установы, дзе ўсе прадметы выкладаліся б па-беларуску. Распрацоўваць канцэпцыю гэтай ВНУ будуць акадэмік М.Гарэцкі, я і некаторыя іншыя навукоўцы. Ужо 1 верасня можна будзе пачаць працу. Ад БДУ гэту справу курыруе першы прарэктар, прафесар А.Жук.

Таксама трэба адзначыць, што такая канцэпцыя стварэння беларускамоўнага ВНУ зьяўляецца вельмі ашчаднай эканамічна. Ствараецца ён на грошы, выдаткаваныя БДУ. Проста частка іх перакладзецца з адной кішэні ў іншую.

— Якія ўмовы паступлення?

— Першакурснікам трэба здаць адпаведныя экзамены. Каб трапіць на іншыя курсы, дастаткова субяседвання. Упэўнены: ёсць студэнты, якія захочуць перайсці да нас, каб вучыцца па-беларуску. Тым больш, што яны атрымаюць той жа дыплом дзяржаўнага ўзору.

— А з беларускамоўнымі выкладчыкамі праблем няма?

— Ужо сёння ў нас ёсць больш за сотню выкладчыкаў з БДУ і іншых ВНУ Беларусі. Акрамя таго, у гэтай навучальнай установе пажадалі выкладаць спецыялісты з Англіі, Нямеччыны, Францыі, Расіі і іншых краінаў. Сярод усіх выкладчыкаў — дацэнты, прафесары, акадэмікі, якія здольныя выкладаць на беларускай мове.

— У вас не атрымаецца, як на філалагічным факультэце адной ВНУ, дзе дэкан размаўляе звычайна па-руску?

— Такое выключана. Я думаю, у нас І прыбіральшчыцы павінны размаўляць па- беларуску.

# *Брытанскі часопіс Economist зьмясьціў надзвычай змрочны артыкул пра Беларусь*

“Несапраўдныя вынікі несапраўдных выбараў у несапраўдны парлямэнт. Інакш кажучы, тое, што звычайна ў беднай Беларусі” – піша брытанскі часопіс Economist. Усё гэта ў часе, калі суседзі Беларусі на захадзе і поўначы ў бліжэйшыя гады маюць шанец далучыцца да Эўразьвязу. У іх улада разумна перадаецца з рук у рукі адказных палітыкаў. На фоне сытуацыі ў Беларусі, нават далёка недасканалая расейская дэмакратыя выглядае прывабна.

Паглыбленьне беларускай галечы -- лічыць Economist --узьдымае пытаньне, ці прапанаваная ёю мадэль аб'яднання з Расеяй наагул ажыцьцявіцца. Хутчэй за ўсё, адчуваючы настроі ў расейскім грамадзтве, Уладзімір Пуцін захоча праглынуць Беларусь. Неясна толькі, ці пагодзіцца з гэтым і пойдзе на такі варыянт дзівакаваты і крыўдлівы Аляксандар Лукашэнка. 19-га кастрычніка чакалася, што абодва прэзыдэнты пацьвердзяць імкненьне іхніх краінаў да аб'яднаньня – нагадвае брытанскі часопіс Economist.

Раней сёлета беларускі рэжым абяцаў прыслухацца да патрабаваньняў з боку міжнародных арганізацыяў і стварыць лукашэнкавым апанэнтнам раўнапраўныя перадвыбарчыя ўмовы. На самой справе, ніводнага са сваіх абяцаньняў рэжым ня выканаў.

Новы выбарчы закон дазволіў уладам пазбавіць права балатавацца дзесяткаў незалежных кандыдатаў. Хаця ўсе кандыдаты атрымалі вельмі мала эфірнага часу, дзяржаўныя СМІ пасьпелі прадставіць іх не інакш, як злодзеяў, фашыстаў, наркаманаў, крымінальнікаў, амэрыканскіх марыянэтак і гомасэксуалістаў. Тых, хто распаўсюджваў улёткі з заклікам да байкоту выбараў, міліцыя затрымлівала. У выніку, адзначае Economist, няма падставаў для спадзяваньня, што новы парлямэнт будзе лепшы і больш незалежны за папярэдні.

Улічваючы перадвыбарчыя рэаліі, беларуская апазыцыя пераважна байкатавала выбары, а міжнародныя арганізацыі, такія як АБСЭ і Рада Эўропы, абмежавалі сваю прысутнасьць у часе выбараў да групы "тэхнічных назіральнікаў". Яны заявілі, што выбары не адпавядалі мінімальным дэмакратычным стандартам. Зразумела, афіцыйны Менск успрыняў гэта як выкручваньне рук (грубае ўмяшаньне) з боку ЗША. Лукашэнка прадказваў выбарчую актыўнасьць на узроўні 70 %. Згодна афіцыйным паказьнікам, галасавала 60 % выбаршчыкаў, аднак паводле падлікаў апазыцыі, на самой справе іх было ня больш 45%, і выбары не адбыліся -- піша Economist.

Брытанскі часопіс канстатуе, што абсалютна ігнаруючы ўсе прынцыпы дэмакратыі, Лукашэнка ўсё ж застаецца пры ўладзе. Апазыцыя, некаторыя прадстаўнікі якой зьнікі і, магчыма, ужо не жывуць, некаторыя зьняволеныя альбо ў выгнаньні – раздробленая, а крытыка рэжыму звонку мала эфэктыўная.

Зараз увага канцэнтруецца на прэзыдэнцкіх выбарах у лістападзе наступнага году, якія, як мяркуецца, будуць паўторам апошніх, парлямэнцкіх выбараў. Паводле Economist, зараз перад Беларусьсю ўзьнікаюць тры важныя пытаньні: папершае, ці беларуская апазыцыя здолее аб'яднацца вакол аднаго аўтарытэтнага лідэра накшталт Ваіслава Каштуніцы ў Югаславіі. Па-другое, як адрэагуе на зьяўленьне канкурэнта Аляксандар Лукашэнка. І нарэшце, як Расея паставіцца да сваёй клапатлівай суседкі -Беларусі?

Працыўнікі рэжыму нагадваюць Лукашэнку пра магчымасьць "югаслаўскага варыянту", але ўмовы для такога разьвіцьця ў Менску менш спрыяльныя чым ў Белградзе, – піша Эканоміст. Сярод беларусаў больш апатыі, затое менш нацыянальнай сьвядомасьці і патрыятызму.

Апазыцыя ў Беларусі нашмат слабейшая. Далейшае зьбядненьне грамадзтва ўзмацняе незадаволенасьць, але пакуль Расея будзе пастаўляць Беларусі энэрганосьбіты, ейная эканоміка цалкам не разваліцца. "Сытуацыя нагадвае часы Савецкага Саюзу, калі ўсё, што было галоўным, вырашалася ў Маскве" – брытанскі часопіс цытуе аднаго беларускага сацыёляга.

Пакуль што няясная сытуацыяў Беларусі працягваецца. Пуцін, прынамсі, на першы погляд, ставіцца да беларускага кіраўніцтва з пагардай, але тое, што ён у сапраўднасьці думае, застаецца таямніцай. Лукашэнка заяўляе, што Беларусь захавае незалежнасьць нават пасьля аб'яднаньня з Расеяй, Масква адтэрміноўвае ўвядзеньне сумеснай валюты, затое ахвоча карыстаецца вайсковымі базамі і пасярэдніцтвам Менску ў гандлі зброяй.

Кастусь Бандарук, (RL) Прага

# Беларуская літаратура па-за радасьцю быцьця

**Севярын Квяткоўскі** – "Радыё Рацыя"

Каго б вы вылучылі на ляўрэацтва ў літаратурнай прэміі імя Нобэля? І ці ёсьць у Беларусі патэнцыйныя прэтэндэнты на гэтую прэмію? На пытаньні Радыё Рацыя адказваюць вядомыя беларускія літаратары розных пакаленьняў: і прызнаныя "зубры" й тыя, каго завуць маладою зьменай.

Цікава, што й "дзяды", і "ўнукі" беларускае літаратуры сярод вартых прэміі Нобэля аднагалосна называлі імя Васіля Быкава. Адрозьненьне ў тым, што прадстаўнікі старэйшага пакаленьня давалі найбольш разгорнуты і ўпэўнены камэнтар да сваёй пазыцыі. Напрыклад, Валянцін Тарас.

**В.Т.:** Быкаў, акрамя ўсяго іншага, гэта першы беларускі пісьменьнік, які стаў пісьменьнікам сусьветнага маштабу ў нашым стагодзьдзі. Гэта першая, можа, па-сапраўднаму філязофская проза ў нашае літаратуры. Да таго ж, нельга забываць ягоную дэмакратычную пазыцыю: не наклеіш на пазыцыю Быкава ніякі палітычны ярлык. Гэта агульначалавечая, у той жа момант глыбоканацыянальная, беларуская пазыцыя.

Што да маладзейшых, якія ў апошнія гады заявілі пра сябе із старонак "Нашае Нівы" й "Архэ", дык падавалася, што ймя патрыярха беларускае літаратуры яны называюць найперш з павагі да старэйшых. Напрыклад, маладая эсэістка Аляксандра Андрыеўская сьпярша назвала ймя італійца Ўмбэрта Эка. Падобная ж пазыцыя ў перакладчыка й паэта Андрэя Хадановіча. Яму як чытачу й літаратару бліжэйшая сучасная школа італійскіх пост-мадэрністаў.

**А.Х.:** У Італіі досыць моцная школа празаікаўпостмадэрністаў. Італа Кальвіна, які мне быў найцікавейшы, памёр ужо - яму Нобэлеўскую прэмію не дадуць. А, да прыкладу, Умбэрта Эка - аб'ектыўна варты, але, хутчэй за ўсё, не атрымае. Які крытэр Нобэлеўскага ляўрэацтва? Напэўна, адпаведнасьць мастацкіх твораў сучаснай карціне сьвету. Што да беларускіх прэтэндэнтаў, - я, напэўна, ня вынайду ані Амэрыкі, ані ровару, калі ў дзясяты-соты раз паўтару, што, мабыць, калісьці варта было даць "нобэля" Быкаву. Мабыць, набліжаецца да гэтага паэзія Разанава.

Андрэй Хадановіч мяркуе, што ў сучаснае беларускае літаратуры бракуе моцных твораў, якія б адпавядалі мастацкаму бачаньню сучаснага сьвету. Але ён прыгадвае ймя Алеся Разанава як патэнцыйнага кандыдата на літаратурную Нобэлеўскую прэмію ў будучыні.

А вось паэтка Антаніна Хатэнка належыць да сярэдняга пакаленьня беларускіх літаратараў. Тых, што між "дзядамі" і "ўнукамі" нашае літаратуры. Антаніна Хатэнка перакананая ў безумоўным кшталце Алеся Разанава як сучаснага выбітнага паэта, вартага Нобэлеўскае прэміі. Антаніна Хатэнка мяркуе: "Разанаў - паэт, які ў сваіх творах нясе сьвету ўнікальны мастацкі, эстэтычны й філязофскі шыфр. А гэта ёсьць адзнакаю глябальна-плянэтарнага й сусьветнага мысленьня, угрунтаванага ў культуры старажытнай і сягнёнага ў прыйшласьць чалавецтва".

Крытык, эсэіст і выдаўца Сяргей Дубавец таксама належыць да сярэдняга пакаленьня. Спадар Дубавец ані на каліва не сумняецца ў канвэртабэльнасьці беларускае літаратуры.

**С.Д.:** Я даў бы "нобэля", безумоўна, беларускаму пісьменьніку. Я лічу, што наша літаратура не заслужана абыйдзеная ўвагай з боку швэдзкіх акадэмікаў. Файна было б даць Нобэлеўскую прэмію, напрыклад, Славаміру Адамовічу. Ён напісаў некалькі выдатных кніг паэзіі, якія рэдка пішуць цяпер у сьвеце. Гэта - сапраўдная паэзія. Натуральна, асноўны наш кандыдат - гэта Васіль Быкаў. Калі не дадуць Быкаву, хай хоць Адамовічу дадуць.

"Літаратурнае адкрыцьцё 1998-га году" пісьменьніца й эсэістка Ева Вежнавец паўжартам кажа, што, за рэдкім выключэньнем, Нобэлеўскія ляўрэаты пішуць малачытэльна. Спадарыня Вежнавец дала б прэмію Чэстэртону, але той даўно памёр. Паводле Евы Вежнавец, творы Нобэлеўскага ляўрэату маюць несьці надзею чалавецтву й вяртаць чытачу радасьць быцьця. У беларускай літаратуры такіх твораў маладая пісьменьніца пакуль што ня бачыць.

# Спатканьне гісторыкаў

20—21 кастрычніка ў Беластоку адбылася канфэрэнцыя "Змаганьне за беларускую дзяржаўнасьць у XX ст.", наладжаная Беларускім Гістарычным Таварыствам. Тэмы дакладаў ахаплялі XX ст. і закраналі такія аспэкты беларускай гісторыі, як ідэя "краёвасьці" на пачатку стагодзьдзя, лёсы БНР і БССР, праблемы беларусізацыі, разгром нацыянальнага руху, беларускі нацыянальны рух у Заходняй Беларусі, нацыянальнае жыцьцё падчас нямецкай акупацыі (1941-1944), таталітарная сыстэма, Беларусь на сучасным этапе і інш. Гісторыкі дзяліліся напрацоўкамі, паведамлялі раней невядомыя факты. Ігар Кузьняцоў агучыў лічбу рэпрэсаваных у Беларусі ў часе сталінскіх рэпрэсій: **950 тысяч.** Выказвалася і занепакоенасьць сёньняшнім днём Беларусі, паступовай стратай незалежнасьці. Афарызм Сьцяпана Бандэры **"Шануйце, хлопцы, лес, ён вам яшчэ спатрэбіцца"** прагучаў на навуковай канфэрэнцыі зусім ня сьмешна...

# "Матэрыялы да беларускай гісторыі: Сымон Кандыбовіч

**Алена Арэшка** – "Радыё рацыя"

Часопіс "Беларускі Гістарычны Агляд" выдаў у сэрыі "Матэрыялы да беларускай гісторыі" новую кнігу, якая называецца "Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі". Аўтарам гэтае працы зьяўляецца Сымон Кандыбовіч - асоба вельмі цікавая й неадназначная, як, дарэчы, і ягоная праца, якая была адной зь першых спробаў дасьледаваць гісторыю бальшавіцкіх рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі. Працу сваю беларускі гісторык напісаў у эміграцыі яшчэ ў 50-х гадох, але на Бацькаўшчыну патрапіла яна толькі зараз. Кандыбовіч быў відавочцам падзеяў, пра якія пісаў, і аўтарскія характарыстыкі, замалёўкі, успаміны, выразныя й насычаныя дэталямі, маюць моц амаль фактычнага дакумэнту.

Разгром нацыяльнага руху ў Беларусі ў гады бальшавіцкага панаваньня й ягоныя наступствы так ці інакш закранаюцца ў кожнай з нашых праграмаў, асноўная мэтаю якіх ёсьць імкненьне спрычыніцца да стварэньня сапраўднае і дагэтуль яшчэ не напісанае гісторыі Беларусі. Вось чаму сёньня "Бумэранг" прэзэнтуе кнігу Сымона Кандыбовіча.

Беларускі дзяржаўны дзеяч і гісторык Сымон Кандыбовіч нарадзіўся ў 1891 у Капыльскім раёне. Верагодна, што скончыў ён Нясвіскую настаўніцкую сэмінарыю, а пад час Першай сусьветнай быў ў войску. Пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту - на розных дробных савецкіх пасадах, а ў 1926 уступае ў Камуністычную партыю. У 30-я савецкая кар'ера Кандыбовіча разьвіваецца паступова й пасьпяхова - ён прызначаецца на пасаду кіраўніка справаў Саўнаркаму, а потым начальніка нарыхтовак Упаўнаважанага Наркамхарчпраму СССР. Але ўсё нечакана перапыняецца ў 1940 годзе арыштам па надуманых абвінавачаньнях. Пасьля гэтага шмат што зьмяняецца ў пераканаmaking Кандыбовіча. У часе вайны ён уваходзіць у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, удзельнічае ў другім Усебеларускім Кангрэсе у Менску ў чэрвені 1944. Зь лета 1944 - у Нямеччыне. Памёр Кандыбовіч у 1972 годзе ў Мюнхэне. Кніга "Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі" пісалася першапачаткова для радыё "Вызваленьне" (сёньняшняя "Свабода"), на якім аўтар сам яе й чытаў. У 1998 годзе рукапіс кнігі былы кіраўнік радыё "Свабода" Вячка Станкевіч перадаў Янку Юхнаўцу (зяцю Сымона Кандыбовіча), а той, у сваю чаргу, Лявону Юрэвічу - беларускаму гісторыку й філёлягу, які пражывае ў Нью-Ёрку. Такім чынам, першае выданьне кнігі Кандыбовіча "Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі" стала супольным праектам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку й часопісу "Беларускі Гістарычны Агляд".

Кніга Кандыбовіча фармальна складаецца зь дзьвюх частак. У першае аўтар апісвае працэс разьвіцьця і ўздыму беларускага нацыянальнаха руху ў 20-я гады, калі, выкарыстоўваючы адносна лагоднае стаўленьне бальшавікоў да нацыянальнае культуры, патрыёты правялі вялізную працу па беларусізацыі ўсіх бакоў жыцьця краіны й, на думку Кандыбовіча, нацыянальнае адраджэньне стала тады неаспрэчным фактам. Але беларуская адліга заўсёды бывае кароткай. Ужо з другой паловы 20-х гадоў пачынаюцца арышты й абвінавачаньні самых найлепшых і шчырых беларускіх патрыётаў у нацыянал-дэмакратызме. У гэтым словазлучэньні бальшавікі, безумоўна, аб'ядналі самыя ненавісныя й небясьпечныя для сябе паняцьці. Носьбітамі нацыянал-дэмакратызму апынуліся заснавальнік Інстытуту Беларускай Культуры прафэсар Ігнатоўскі, камісар асьветы Баліцкі, географ Смоліч, камісар земляробства Прышчэпаў, дырэктар Беларускага Дзяржаўнага музэю гісторык Ластоўскі, мовазнавец Лёсік і дзясяткі, сотні іншых беларускіх інтэлігентаў. Па падліках беларускіх гісторыкаў, "з васьмісот дваццаці шасьці чалавек, якія праходзілі па сьпісе ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху 1917-1924 гг. (а гэта былі ў абсалютнай большасьці прадстаўнікі інтэлігенцыі), рэпрэсаваныя былі ўсе, хто застаўся пражываць на тэрыторыі СССР".

У выніку вынішчэньня так званай нацдэмаўшчыны беларускі народ перажыў страшэнную страту, застаўся без нацыянальнага настаўніцтва, выхавацеляў, а нацыянальныя каштоўнасьці, створаныя ў тыя гады калясальнымі высілкамі й працай, апынуліся растаптанымі.

Другая частка кнігі Кандыбовіча распавядае пра мэханізм бальшавіцкага тэрору трыццатых гадоў, пра памеры якога можна меркаваць хаця б па наступных паказчыках: да вайны ў Менску налічвалася каля 250 тысяч чалавек насельніцтва, а падчас, напрыклад, яжоўшчыны за адну ноч арыштоўвалася ад 400 да 500 чалавек. Горад і вёска былі ахопленыя страхам, які менавіта тады, здаецца, стаў складовую часткаю беларускага характару. Цытую па кнізе Кандыбовіча:

"Каля дванаццаці гадзін ночы, калі звычайна пачыналася нармальная праца НКВД, насельнікаў гораду ахопліваў страх. Людзі ня спалі, нэрвова прыслухоўваліся да стуку, шораху, у кватэрах ўздымалася паніка ад гуку аўтамашыны на вуліцы. Кожная сямья чакала жахлівых наведвальнікаў. Часта ў адной сямьі арыштоўвалі некалькі чалавек. Супрацоўнікі ва ўстановах, прыйшоўшы раніцай на працу, з трывогаю аглядаліся й вызначалі колькасьць начных ахвяраў. Былі патрэбныя нечалавечыя высілкі, каб вонкава захаваць спакой, вытрымку й выконваць працу. Трэба было паказаць абыякавасьць да зьнікненьня людзей. Часта блізкіх сяброў і аднадумцаў. Зацікаўленасьць арыштаванымі й роспыты пра лёс іх семьяў былі небясьпечнымі. У некаторых з тых, хто застаўся на волі, не вытрымлівалі нэрвы, людзі не кладзіся спаць, апраналіся й бяз мэты блукалі па пустых вуліцах гораду да раніцы. Адначасова з арыштам нацдэмаў зь біблятэк, чытальняў канфіскавалі ўсе працы арыштаваных, незалежна ад таго, мелі яны дачыненьне да абвінавачаных, ці не. Усе, што стваралася на працягу некалькіх гадоў - працы па гісторыі, этнаграфіі, геаграфіі, літаратуры, мастацтве, краязнаўстве, творы маладых і старых таленавітых паэтаў і празаікаў, навуковыя дасьледаваньні спэцыялістаў - усё гэта пасьля арышту аўтараў было названа шкодным нацдэмаўскім хламам".

Кандыбовіч дае ў кнізе адзін зь першых мартыролягаў ахвяраў вынішчэньня беларускае эліты. Ім складзеныя ня толькі сьпісы загінулых, але й сьпісы каштоўных навуковых працаў і збораў, зьнішчаных энкэвэдэшнікамі. Вось, напрыклад, адзін зь іх:

1. Зборнік беларускай народнай творчасьці.
2. Краёвыя слоўнікі: Чэрвеньшчыны, Мазыршчыны, Віцебшчыны.
3. Зборнік чатырохсотгодзьдзя беларускага друку.
4. Беларускі архіў (пэрыёдыка).
5. Усе творы Алеся Гаруна.
6. Працы першага зьезду дасьледчыкаў беларускай археалёгіі й археаграфіі.
7. Працы аддзелу гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук (філялёгіі, гісторыі, этнаграфіі, археалёгіі, мастацтва, права).
8. Сэрыя выданьняў беларускай навуковай тэрміналёгіі.
9. Беларускія казкі, прыказкі й замовы, запісаныя й апрацаваныя Аляксандрам Сержпутоўскім, і гэтак далей...

Рэпрэсіі настолькі моцна закранулі беларускае грамадзтва, што ў лютым 1931 году першы сакратар ЦК КП (б)Б Гей быў вымушаны прасіць Маскву: "неадкладна прыслаць у БССР навуковых работнікаў па эканамічных дысцыплінах" для выкладчыцкай і навуковай працы. Прычыны гэтага - арышты "ў сувязі з выяўленьнем контрэвалюцыйных шкодніцкіх арганізацыяў значнай групы асоб..." У сувязі з гэтым шэраг вэнэу, і ў першую чаргу БДУ, апынуліся "у катастрафічным стане й стаялі перад зрывам заняткаў і нават поўным закрыцьцём шэрагу аддзяленьняў..." Такім чынам, ужо каторы раз пацягнуліся ў Беларусь на вызваленыя месцы зь усіх абшараў Савецкага Саюзу савецкія асаднікі.

Кніга Кандыбовіча выразна апісвае перадваенную савецкую Беларусь, дае яскравыя партрэты катаў і ахвяраў грандыёзнай сталінскай чысткі, дае шмат матэрыялу для таго, каб зразумець вытокі сёньняшніх праблемаў і асэнсаваць іхнюю сутнасьць. Тэма разгрому нацыянальнага руху ў Беларусі, якой прысьвечана праца беларускага гісторыка Сымона Кандыбовіча, ёсьць і застаецца адной з галоўных у цыклю праграмаў пад агульнаю назваю "Бумэранг". І размова на гэтую тэму будзе, безумоўна, намі працягнутай.

---

# ПРА БУДУЧЫЯ ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ...

Намесьнікі старшыні Аб'яднанае Грамадзянскае партыі Павал Данэйка ды Аляксандар Дабравольскі на паседжаньні палітычнае рады прэзэнтавалі грунтоўны плян-сцэнар будучае прэзыдэнцкае кампаніі.

Стратэгія ўключае ў сябе пошук адзінага кандыдата ад палітычнай апазыцыі, распрацоўка ягонае выбарчае праграмы, дапамога ў зборы неабходных ста тысячаў подпісаў дзеля рэгістрацыі, і, нарэшце, падрыхтоўка да непасрэдна выбарчае кампаніі.

Прамоўцы падкрэсьлівалі, што сцэнар мусіць вызначацца навізною, але адначасова павінны быць улічаныя і ўрокі як першае прэзыдэнцкае кампаніі, гэтак і цяперашніх выбараў у "Палату прадстаўнікоў". Прыкладам, каб ахапіць дзейсным кантролем усе выбарчыя ўчасткі, у наступным годзе спатрэбіцца 21 тысяча назіральнікаў. Для параўнаньня нагадаю, што на выбарах у "палату" іх было менш за 6 тысячаў. Таму займацца ўсімі справамі, якія зьвязаны з выбарамі кіраўніка беларускае дзяржавы, трэба пачынаць як мага раней, каб эфэкт быў сапраўдным.

Міхал Пліска зазначыў, што перамога на будучых выбарах ня будзе магчымаю праз намаганьні адной толькі дэмакратычнай апазыцыі — на свой бок трэба за той час, які яшчэ ёсьць, перацягнуць сярэдні пласт беларускае намэнклятуры.

Выказвалася й такая думка — ня трэба шукаць адзінага кандыдата зь ліку шырокавядомых апазыцыйных палітыкаў, бо гэта зрабіць будзе вельмі цяжка. Ды і ўвогуле, трэба арыентавацца на "свайго Каштуніцу" — чалавека, які на сёньняшні дзень зьвязаны нейкім чынам з уладнымі або каляўладнымі структурамі.

Вось што думае на гэты конт удзельнік паседжаньня сябра палітычнае рады АГП Вячаслаў Герасіменка:

(Вячаслаў:) "Былі намечаныя два шляхі. Першае, гэта зьвярнуцца да прадстаўнікоў, кіраўнікоў іншых палітычных партыяў з мэтай выпрацоўкі сыстэмы па вылучэньні адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў. Адругі сцэнр – калі раптам ня ўдасца зрабіць стаўку на дэмакрата, дык тады гэта можа быць прадстаўнік ад уладных структураў, магчыма, нейкі гаспадарнік. Ва ўсялякім разе, на сёньня адназначна сказаць нельга, але дэмакраты, па-мойму, зрабілі правільны крок, што яны, з аднаго боку, дэмакратычны кірунак трымаюць, а з другога – не забываюць і аб тым, што першую прыступку, магчыма, давядзецца пакласьці не зусім дэмакратычную, а другая будзе чыста дэмакратывчная".

Удзельнікі паседжаньня прынялі адмысловую пастанову, згодна зь якою створана адмысловая рабочая група ў падрыхтоўцы да прэзыдэнцкіх выбараў на чале з Паўлам Данэйкам. Сябрам партыі даручана пачаць працу ў падрыхтоўцы сяброў акруговых і ўчастковых выбарчых камісіяў, працягнуць падбор і падрыхтоўку назіральнікаў.

Уладзімер Глод, Менск (RFE/RL)

---

"ВЫНІКІ ВЫБАРАЎ У БЕЛАРУСІ ДЭМАКРАТЫЧНЫ СЬВЕТ МОЖА ПРЫЗНАЦЬ ТОЛЬКІ РАЗАМ З БЕЛАРУСКАЙ АПАЗІЦЫЯЙ", - заявў старшыня Вярхоўнай Рады Украіны Іван Плюшч. Непрызнаньне беларускай апазіцыяй вынікаў выбараў, на думку украінскага сьпікера, азначае, што ў Беларусі, "на жаль, нічога не зьмянілася" і, азначае, што "для перагляду стаўленьня да гэтае краіны няма прычынаў".

# Наступны прыпынак – "Беларусь"

Высакапарны дыктатар Беларусі мабыць адчувае сябе вельмі адзінокім. Пасьля падзеньня рэжыму Слабадана Мілошавіча ў Сэрбіі на мінулым тыдні, Лукашэнка застаецца адзіным нелегітымным прэзыдэнтам на ўсім эўрапейскім кантыненьне. Становішча "апошнега з магіканаў", у якім ён зараз апынуўся, сьведчыць пра дзіўны трыумф дэмакратыі за апошнія некалькі дзесяткаў год – справы, якую трэба працягваць да поўнай перамогі. Тое, якім чынам наступны прэзыдэнт ЗША зьбіраецца працягваць пачатае, стане вырашальнай картай падчас прэзыдэнцкай гонкі ў Амэрцы.

Нейкіх 15 год таму Жалезная Заслона падзяляла Эўропу на два лягеры – краіны, дзе перамагла дэмакратыя і краіны, дзе перамагла дыктатура. Тады нешта зьмяніць здавалася малаверагодным. У той самы час Адміністрацыя і кангрэс ЗША ўсьвядомілі неабходнасьць супрацьдзеяньня таталітарызму. Пасьля падзеньня Бэрлінскае Сьцяны і распаду Савецкага Саюза некаторыя краіны імгненна ператварыліся, у першую чаргу гэта тычыцца Польшчы, Эстоніі і Славеніі – краінаў, дзе дэмакратычныя інстытуты разьвіваліся настолькі маланкава, што тамтэйшая моладзь і ўявіць зараз ня можа ўвядзеньне карткавай сыстэмы альбо крымінальны перасьлед дысыдэнтаў. Іншыя ж спачатку спатыкнуліся, адкаціліся назад, але затым усё ж сталі на ногі, хаця і не бязь цяжкасьцяў. У некаторых з такіх дзяржаваў, былая партыйная намэнклятура хуценька трансфармавалася ў нацыялістычна настроеных аўтакратаў і зьнішчыла дэмакратыю, якая пачала зараджацца. Практычна ўсе з вышэйзгаданых дыктатараў канулі ў вечнасьці. Славакія, Харватыя, а зараз і Сэрбія могуць з упэўненасьцю сказаць, што да ўлады ў гэтых краінах прыйшлі дэмакраты. Палітыка клінтанаўскае адміністрацыі і яе хаўрусьнікаў – а менавіта санкцыі, уціск, дапамога дэмакратычнае апазыцыі, ваеннае супрацьдзеяньне агрэсіі і злачынствам супраць чалавецтва – разам дапамаглі дасягнуць пажаданага выніку. Нават Лукашэнка, як і Мілошавіч у свой час, вымушаны граць дэмакрата. Прызначаныя ім выбары – чарговая ліпа, яго ж уласныя паўнамоцтвы скончаюцца ў наступным гозе. У выпадку, калі Захад будзе пасьлядоўна падтрымліваць беларускіх дэмакратаў і адмовіцца прызнаць выбарчы фарс, беларусы могуць накапіць дастаткова сілаў для таго, каб крочыць сэрбскім сцэнарам.

Гэта, канешне, не азначае аўтаматычнага вырашэньня ўсіх праблемаў, але, па меньшай меры, прадаставіць свабоду дзеяньняў для іх вырашэньня. Сёньня перад сэрбамі паўстала маса праблемаў: гэта і разваленая эканоміка і паўразбураная ў выніку НАТАўскіх бамбардзіровак інфраструктура краіны і няпростая спадчына этнічных супярэчнасьцяў. Па-за сумнівам, новаабраны прэзыдэнт Каштуніца будзе дзейнічаць далёка не заўсёды так, як гэтага хоча Захад. Знаходжаньне НАТАўскіх міратворцаў у Касове можа ў нейкі момант ускладніцца.

Але ўсе гэтыя праблемы вырашальныя і ўжо ніяк не параўнальныя з тымі, што стаялі ў парадку дня Сэрбіі нейкія два тыдні таму, падчас кіраваньня Слабадана Крывавага. Яшчэ дзесяць год таму Захад прыйшоў да высновы (альбо па меншай меры павінен быў прыйсьці), што дапамогу трэба аказваць своечасова, нягледзячы на тое, што часу бывае мала. У краінах, дзе палітыка Захаду правалілася, яму далі яшчэ адзін шанец. Часткова гэта стала вынікам шанцу, хаця хутчэй – вынікам адчайнага супраціву народаў на мейсцах.

Кандыдат Джордж Буш выказаўся супраць пашырэньня ўдзелу Штатаў у гэтак званай рэабілітацыі нацыяў, рапаўсюджваньні дэмакратыі і міратворчых апэрацыях. Ён і ягоны канкурэнт мяркуюць, што некаторыя рэгіёны Эўропы ляжаць па-за сфэрай амэрыканскіх інтарэсаў, а гэта значыць, што ЗША трэба выйсьці адтуль, тым самы прадаставіць свабоду дзеяньняў Эўропе. Але што, запытваюся я вас, можа быць больш жыцьцёва важным для ЗША, чым спакойная, дэмакратычная, свабодная Эўропа? Што можа быць боль важна за распаўсюджваньня польскага поспеху на Сэрбію і Беларусь – бачаньні, якія прадказвалі паўвека таму Гары Трумэн і іншыя пасьляваенныя лідэры, як дэмакраты так і рэспубліканцы?

Нават зараз, канчатковая перамога далёка не гарантаваная і дасягнуць яе будзе вельмі няпроста. І гэта яшчэ адна прычына, па якой Злучаным Штатам ня трэба сыходзіць з рэгіёна.

International Herald Tribune

# Дэградацыя грамадзтва пачынаецца са зьдзеку над мовай

*Жыве ў вяках беларускае слова –*
*Народу душа і народу хвала.*
*А. Бачыла.*

З матчыных вуснаў чутае роднае слова саграває нас сваім цяплом, дае нам жыццёвыя крылы, дае права звацца чалавекам на пачатку жыццёвага шляху. З яго замілаванасцю, каштоўнасцю, з яго гаючасцю звязаны нашы духоўныя і маральныя якасці, нашы лепшыя чалавечыя набыткі.

Родная мова – гэта акенца ў мінулае, сувязь з будучым, гэта душа народа жывая і трапяткая. А душа бяссмяротная, значыць бяссмяротная наша мова, якая з'яўляецца сведкай высокароднай і ўзвышанай душы беларуса.

Стан нашай мовы – гэта стан нашай культуры, стан нашай дзяржаўнасці… І калі прыглядзецца, якія зрухі адбываюцца ў развіцці культуры, духоўным патэнцыяле асобы, дык не скажаш, што мы рухаемся наперад. Ажыццяўляецца рэформа ў развіцці школы – як вышэйшай, так і агульнаадукацыйнай. Вядомыя захады прымае Міністэрства асьветы. Аднак прагрэсуе дэградацыя грамадства, дэградацыя асобы. Тыя добрыя рысы памяркоўнага, сардэчнага, разважлівага, чулага, працавітага беларуса паступова выраджаюцца, усё часцей і часцей мы сустракаем людзей, якія толькі знешне, па вопратцы лічацца людзьмі. Не прыпыняецца разбой, крадзеж, п'янства, сіфіліс, СНІД, і ўсе гэтыя "каштоўнасці" з кожным днём узрастаюць. Атрымоўваецца чамусці так, што ўсе як бы згаварыліся працаваць не на карысць чалавека, а наадварот, адвучваць яго ад устанаўленых прынцыпаў, традыцыяў, запаведзяў Бібліі…

Не, людцы, гэта ня толькі прыкра, але і прыклад для слухача, гледача, падлетка, дзіцяці. Памятаецца, калі будаўнік камунізму М. С. Хрушчоў ня мог па сваёй неадукаванасці вымавіць правільна слова камунізм, а вымаўляў камунізьм, дык колькі і з адукацыяй нават падда̀ліся на гэтае бязглуздае вымаўленне. І цяпер пакаленне тых гадоў, а нават і больш маладзейшае прадаўжаюць вымаўляць так, як вымаўляў Першы сакратар ЦК КПСС. А як размаўляў ужо з адукацыяй землямернага тэхнікуму Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў. А памятаеце, калі ўжо адукаваны М.С. Гарбачоў хацеў надаць нейкае больш эмацыянальнае і змястоўнае значэньне слову мышленне, вымаўляў мы`шленне. Паўдзяржавы ўзапар, адразу забыўшыся пра тлумачальны слоўнік, сваю адукаванасць, культуру, сталі ламаць сваё правільнае вымаўленне, хаця б патрапіць так, як вымаўляе М. С. Гарбачоў. А прыслухайцеся, якое вымаўленне дзяржаўных вяльможаў цяпер па радыё і тэлебачанні.

А колькі смецця высыпае на слухачоў наша тэлебачанне ў тых перадачах, якія прысвячаюцца дзецям!

З якога гэта часу сталі выхаваўчымі такія словы, як балбес, чокнуты, крэцін, балдзёжны,клёва, класна… З рэкламы гучыць: "Класны фруктны сок, проста абалдзенны".

А. Пугачова ў сваіх прадмовах выкарыстоўвае такі выраз, як класны мужык. Два словы і два жарганізмы А нашы чыноўнікі! Яны ўжо вядуць свае размовы толькі па-руску, ды як? Свякла`, до`говар, - стараюцца нават тлумачыць, што свякла – гэта па-беларуску. Дык не, даражэнькія, па-беларуску не свякла, а буракі. Задумайцеся, як гэты чалавек атрымаў адукацыю і ці вучыўся наогул. Перад урадам краіны трэба ставіць патрабаванне, каб кожны – ад прэзідэнта і да самага маленькага начальніка – перад тым як выступаць, звяртаўся да кансультанта, які б папраўляў, вучыў. Можна ж мець у сучаснай установе хоць адну адукаваную асобу. І хай гэтая асоба зацвярджаецца загадам і нясе адказнасць. А тым, хто сыпле смецце на галавы другіх, забараніць выступаць.

Такая іх мова, я думаю, ад ляноты, ад таго, што яму ўсё дазволена, ад таго, што ўжо даўно не чытае літаратуры. Ня вораг жа ён свайму народу, і ня робіць жа ён усё гэта з намерам.

Есць прымаўка: "Слова не верабей, выляціць не зловіш". Прыслухайцеся да размовы дзяцей у садку, у школе, паглядзіце, які стаў іх слоўнік. (Нармальна, класна, абалдзенна, блін…) А ці не заўважалі вы за людзьмі старэйшага ўзросту, якім цяжка аб чым-небудзь расказаць? Пачынаецца шматразовае паўтарэнне слоў "гэта самы, гэта самая…" - затым блін, бляха-муха, а калі нічога не атрымліваецца, гучыць пяціпавярховы мат.

І ня трэба думаць, што гэта толькі знешне прыкра. Ой, як глыбока западаюць гэтыя словы сваім зместам у сьветапогляд чалавека, некаторыя становяцца кіраўнічым сьветапоглядам цэлага пакалення. А колькі яны прынеслі пакут?

***І. КАРПОВІЧ**, выдатнік асьветы Рэспублікі Беларусь.* (Наша слова)

# У Слоніме застаўся толькі адзін беларускамоўны клас

**У новым навучальным годзе ў слонімскіх школах застаўся толькі адзін беларускамоўны клас…**

Гэты падрыхтоўчы клас дзейнічае ў СШ № 2, у ім навучаецца 15 дзяцей. У мінулым годзе такіх класаў было два: у другой і чацвёртай гарадскіх школах. Па словах работніцы гарадзкога аддзелу адукацыі Тэрэзы Юшкевіч, у беларускамоўныя класы не захацелі аддаваць сваіх дзяцей бацькі. "Мы праводзілі вялікую работу, угаворвалі іх, але бязвынікова", — сказала Тэрэза Юшкевіч.

Калі прыйдзе канец русіфікацыі, а ён напэўна прыйдзе, цікава, куды падзенуцца сёньняшнія бальшавіцкія русіфікатары…

# Беларускае слова ўсё ж гучыць

**1-га верасьня, разам з пачаткам новага навучальнага года, у нашай краіне адзначаўся Дзень беларускай пісьменнасьці і друку.**

У гэты дзень і на афіцыйным узроўні вядуцца размовы пра беларускую літаратуру, а пісьменнікаў запрашаюць выступіць перад школьнай і студэнцкай аўдыторыяй. Чыноўнікі з экранаў тэлевізараў, у радыёэфіры і са старонак газет гаворыць пра вялікае значэнне пісьменнасці і літаратуры ў жыцці грамадства. Пры гэтым, звычайна, не ўспамінаюць, што беларускамоўныя кніжкі выдаюцца мізэрнымі тыражамі, своечасова не выходзяць літаратурныя часопісы. Нават газета творчай інтэлігенцыі "ЛіМ".

Тым не менш, 1 верасня 2000 года павінна надоўга запомніцца старшакласнікам мастоўскіх школ і іх настаўнікам. У гэты дзень мясцовая суполка Таварыства беларускай мовы запрасіла ў Масты на свята беларускай пісьменнасці і друку барда Віктара Шалкевіча з Гродна, паэта і выдаўца Станіслава Судніка з Ліды, Сяргея Чыгрына са Слоніма і іншых гасцей. Але асабліва радуе, што самі мастаўчане — таленавітыя і прыгожыя людзі. І хоць мясцовыя ўлады адмовілі арганізатарам у арэндзе залы ў РДК, у памяшканні Мастоўскай райсельгас-тэхнікі сабралася досыць вялікая аўдыторыя. І хоць асноўная ўвага была скіравана на гасцей, але і сярод мастоўскіх школьнікаў, настаўнікаў і культработнікаў ёсць цудоўныя паэты, для якіх беларуская мова такая ж родная і натуральная, як Нёман. А ўрывак са спектакля "Несцерка", які паказалі васьмікласнікі Правамастоўскай сярэдняй школы Віктар Шайнога і Жэня Сідорык, быў выкананы надзвычай прафесійна і выклікаў заслужаныя апладысменты і сьмех гледачоў…

Атрымалася сапраўднае сьвята беларускага слова. А слова, якое знаходзіць водгук у душах тых, каму заўтра рабіць будучыню Беларусі, — пакідае надзею на лепшае.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

-- Якая мова самая складаная на сьвеце?
– Напэўна, беларуская. Яе ня могуць і ня хочуць вучыць нават самі беларусы.

# Масква зноў пагражае нам адзінай валютай

Урады Расеі й Беларусі, як чакаецца, падпішуць пагадненьне аб уводзеньні адзінае валюты "саюзнае дзяржавы" 10-га лістапада гэтага года. Як паведаміў у сераду на канфэрэнцыі ў Маскве кіраўнік дэпартамэнта міжнародных фінансава-эканамічных адносінаў ЦБ РФ Павал Сьмірноў, адначасова будзе падпісанае пагадненьне аб стварэньні адзінага эмісійнага цэнтра дзьвюх краінаў.

Па ягоных словах, пагадненьне, ужо ўхваленае Саветам міністраў Саюзнае дзяржавы, павінна быць падпісанае прэзыдэнтамі Расеі й Беларусі. Дакумэнт, у прыватнасьці, будзе прадугледжваць дапамогу Нацбанку Беларусі з боку ЦБ РФ у падтрыманьні стабільнасьці і пакупніцкае здольнасьці беларускага рубля, якая будзе аказаная на рынкавых умовах, адзначыў Сьмірноў. Мяркуецца, што расейскі рубель пачне абарочвацца на тэрыторыі Беларусі зь 1-га студзеня 2005 года, а поўны пераход на адзіную валюту заплянаваны да 2008 года, паведамляе «Эхо Москвы».

 



# У НАС ЁСЬЦЬ КАНЦЭПЦЫЯ ЎСХОДНЯЙ ПАЛІТЫКІ

"КАМУНІКАТ"
(Радыё Палёнія)

***Размова зь Ежы Маркам НАВАКОЎСКІМ дарадцам прэм'ер-міністра п/с замежнай палітыкі***

***Можна сказаць, што паміж Польшчай і Беларусяй на сёньняшні дзень няма ніякіх адносінаў. У сваю чаргу, з Расеяй адносіны зараз не найлепшыя. Хопіць тут прыгадаць тое, што быў адкліканы візыт у Польшчу расейскага міністра замежных справаў, а з доўгіх кансультацыяў толькі што нядаўна вярнуўся ў Варшаву расейскі амбасадар. Ці можна тады сказаць, што польская ўсходняя палітыка знаходзіцца ў пэўным крызысе?***

Мяркую, што не. На маю думку, гэта ня ёсьць прызнакі крызысу, але хутчэй за ўсё сьведчаньне пераадольваньня нейкіх тэндэнцыяў. Таму што раней польская ўсходняя палітыка рэагавала толькі на тое, што адбывалася на своеасаблівым рухомым пяску на Ўсходзе. Затое цяпер, здаецца, сытуацыя, асабліва ў Расеі, памалу стабілізуецца. Калі гаварыць пра Беларусь, тады тут сытуацыя больш складаная. У кожным выпадку сьведчыць гэта пра тое, што ў нас ёсьць канцэпцыя ўсходняе палітыкі. І гэтая канцэпцыя не часовая, збудаваная вакол аднаго партнэра, але канцэпцыя, якая абапіраецца на стратэгічныя перадумовы.

***Вось менавіта, на чым палягае канцэпцыя польскай усходняй палітыкі?***

Пачну можа з гэтых стратэгічных перадумоваў. Гэта, па-першае -- падтрымка незалежнасьці й разьвіцьця ў напрамку дэмакратыі ды рынкавай эканомікі ў дзяржававах, якія зьяўляюцца нашымі ўсходнімі суседзямі, значыць, у балтыйскіх дзяржавах, Беларусі, Украіне, а таксама й Расеі. Па-другое – гэта цьвёрдая абарона эўрапэйскіх прынцыпаў, а перш за ўсё – прынцыпу аховы правоў чалавека. Згэтуль, дарэчы, узьнікаюць нейкія праблемы зь Беларусяй. І ўрэшце -- гэта прынцып пасьлядоўнага будаваньня партнэтсва. Партнэрства – значыць роўнасьці бакоў падчас размоваў пра супрацоўніцтва. Гэтая роўнасьць зьяўляецца адной з перадумоваў, каб мы маглі наладзіць нармальныя адносіны з Масквою. І гэта ўрэшце – прынцып падтрымкі разьвіцьця на Ўсходзе рынкавае, сучаснае, некарумпаванае эканомікі. Дзейнасьць у такім напрамку, каб нашыя ўсходнія суседзі былі нармальнымі й прадбачвальнымі партнэрамі.

У гэта ўсё ўваходзіць таксама палітыка стратэгічнага партнэрства з Украінай. Вельмі важнай справай зьяўляецца тое, каб Украіна замацавала сваю незалежнасьць. І з пункту гледжаньня польскіх інтарэсаў зьяўляецца важным, каб Украіна была прынамсі прыязна настаўленай да заходняга сьвету. Апошнія дэклярацыі прэзыдэнта Леаніда Кучмы, што Украіна зацікаўленая ўваходам у Эўразьвяз, а ў будучыні можа нават і ў НАТА, ствараюць вельмі добры клімат дзеля разьвіцьця польскай палітыкі ў адносінах да Украіны.

Спрыяюць гэтаму, каб быць ужо да канца справядлівым, і дэкляарацыі прэзыдэнта Расеі Ўладзіміра Пуціна, які сказаў, што, магчыма, Расея таксама хацела-б апынуцца ў НАТА. Зразумела, такая заява сустрэлася з многімі вельмі скептычнымі рэакцыямі. Але, што гэтага абазначае? Менавіта тое, што прэзыдэнт ад імя расейскае дзяржавы дэкляруе згоду на прыняцьце нейкага каталёгу вартасьцяў. Бо НАТА не зьяўляецца арганізацыяй, якая накіраваная супраць каго-небудзь, але арганізацыяй, якая абараняе тыя каштоўнасьці, што лічацца асноўнымі каштоўнасьцямі Захаду.

***Адкуль, Вашым меркаваньнем, узялася думка, што Расея хоча стаць чальцом НАТА? Ці расейскія палітычныя эліты сапраўды думаюць па такі сцэнар?***

Я ня ведаю, ці гэта сур'ёзная ідэя, ці хутчэй за ўсё толькі рытарычная палітычная фігура. Калі гэта першая магчымасьць, тады вельмі добра. Калі другая – таксама не найгорш. На маю думку, Расейцы проста зразумелі, што супрацьдзеяньне працэсу разьвіцьця НАТА большасьцю сьвету ўспрымаецца як агрэсыўнае дзеяньне. У сувязі з гэтым, Расейцы – так па праўдзе – добра разважаючы, сказалі, што можа ў такім выпадку яны таксама хочуць стаць чальцом НАТА. І сапраўды, здаецца мне, што Паўночна-Атлянтычны Саюз у вельмі далёкай пэрспэктыве такой магчымасьці ня можа выключыць. Прынамсі ў тым сэнсе, што Расея зьяўляецца элемэнтам гэтае часткі сьвету, якую Ян Павал II у адным з апошніх пасланьняў назваў багатай поўначчу. І трэба памятаць пра тое, што лініі сусьветных спрэчак у пэўным момацне пачнуць перасоўвацца з восі ўсход-захад на вось поўнач-поўдзень.

Я вельмі добра прыняў гэтае выказваньне Ўладзіміра Пуціна, хаця разумею тое, што гэта перш за ўсё рыторыка. Але адначасава я ўспрыняў гэта як прыхільнасьць Расеі для тых вартасьцяў, якія паўсюдна прынятыя заходнім сьветам. Гаворачы коратка, гэта сьцьвярджэньне найвышэйшага рангам расейскага палітыка, што Расея знаходзіцца ў Эўропе, а не ў Азіі. Гэта добры сыгнал, але за ім павінны таксама пайсьці нейкія палітычныя крокі, бо, у сапраўднасьці, ня надта сабе ўяўляю чальцоўства ў НАТА краіны, якая вядзе такую крывавую, страшэнную й – між намі гаворачы – зусім бессэнсоўную вайну ў Чачні.

***Апошнім часам можна мець такое ўражаньне - і хіба так ёсьць у сапраўднасьці - што Расея мае лепшыя адносіны з Захадам і з НАТА, чым з Польшчай. Ці ня думаеце, што для Польшчы, якая хацела быць памостам паміж Усходам і Захадам, гэта свайго роду пашчочына?***

Думаю, што гэта ня ёсьць пашчочына для Польшчы. Здаецца мне, што гэтыя лепшыя адносіны вынікаюць зь нечага зусім іншага. Польшча - гэта сусед Расеі. Польшча - гэта краіна, у якой даволі вялікая частка грамадзтва падтрымлівае змаганьне Чачэнцаў. І ўрэшце, Польшча зьяўляецца краінай вядомай у сьвядомасьці Расейцаў. Польшча зьяўляецца выгадным – гаворачы ў двукосьсі – хлопцам для біцьця. Гэта краіна, пра якую Расейцы могуць сказаць, што падтрымлівае Чачэнцаў, што Польшча ў НАТА гэта доказ агрэсыўнасьці гэтага Саюзу і гэтак далей, і таму падобнае. Словам, Расеец Польшчу дасканала ідэнтыфікуе. Адначасова ня мае тут такіх інтарэсаў, каб Польшчы баяцца. Калі расейская рыторыка вострa б"е па Злучаных Штатах Амэрыкі, то зразумела, што можа гэта мець уплыў на атрыманьне крэдытаў. Калі па Нямеччыне – таксама. Калі-б хацелі Расейцы паказаць на пагрозы з боку Бэльгійцаў ці Галяндцаў, то скампраментавалі-б сябе ў вачох свайго грамадзтва. Польшча ў сваю чаргу зьяўляецца дасканалай краінай дзеля такой менавіта мэты. Гэта той праціўнік, які ўвайшоў у НАТА, які здрадзіў славянскаму адзінству й які падтрымлівае гэтых страшэнных Чачэнцаў. Здаецца мне, што згэтуль менавіта бяруцца такія дрэнныя адносіны. На маю думку, узровень адносінаў паміж Польшчай і Расеяй будзе намнога вышэйшы пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі.

***На вашую думку, нельга гаварыць пра крызыс польскай усходняй палітыкі. Тым ня менш, палітыку ўраду ў адносінах да Расеі крытыкаваў прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі. Ці гэтае разнагалосьсе ня ёсьць пагрозай для адзінства польскай усходняй палітыкі?***

Гэта ня ёсьць разнагалосьсе. Праўду гаворачы, я стараюся ўжо не вяртацца да гэтай справы, спадзяючыся, што гэта ўжо не паўторыцца. Гэта не разнагалосьсе. Гэта хутчэй за ўсё нейкая спроба сілаў, нейкая спроба ўмяшаньня ў замежную палітыку. Думаю, што спроба матываваная надыходзячымі выбарамі, як гаварыў міністар замежных справаў Браніслаў Герэмэк.

Проста, справа выглядае так, і мы тут згадзіліся з дарадцамі спадара прэзыдэнта, што ня можа быць нават гутаркі пра дзьве розныя палітыкі. Ня можа быць гутаркі пра змаганьне за тое, хто павінен гэтую палітыку праводзіць. Аднак, такія выказваньні могуць прычыняцца да ўзьнікненьня думак, што такія разыходжаньні сапраўды выступаюць. Маім меркаваньнем, якое-небудзь уводжаньне шчыліны ў польскую замежную палітыку б'е па польскіх дзяржаўных інтарэсах. І таму менавіта лічу гэта небясьпечным. Я ня думаю, што гэта ёсьць розныя канцэпцыі польскай замежнай палітыкі, але стварэньне ўражаньня, што такія розныя канцэпцыі могуць быць. Сам гэты факт зьяўляецца небясьпечным. Я зусім сабе не ўяўляю, каб маглі быць розныя канцэпцыі, бо гэта было-б парушэньне канстытуцыі.

***Ці сёньня польскі ўрад мае канцэпцыю палітыкі ў адносінах да Беларусі?***

Так, зразумела, што мае. Я магу пра гэта гаварыць толькі агульна. І так, гэтая канцэпцыя зводзіцца да трох пунктаў. Па-першае, гэта палітыка неізаляваньня Беларусі. Ня ўводзім агульнага байкоту, не закрываем межаў, утрымліваем нейкія кантакты. Па-другое, гэта палітыка абароны каштоўнасьцяў, зьвязаных з правамі чалавека. Абарона каштоўнасьцяў, зьвязаных з правамі чалавека, зьяўляецца адным з найважнейшых матываў польскае палітыкі, між іншым таму, што мы ведаем, што ня маем атамнай зброі, ня маем шматмільённай арміі. У сувязі з гэтым нашай абаронай зьяўляецца абарона нейкіх асноўных прынцыпаў. І таму, праводзячы дзейнасьць згодна з польскім дзяржаўным інтарэсам і згодна з інтарэсам Эўропы, гаворым – не, не пагаджаемся на парушаньне правоў чалавека, на парушаньне палітычных свабодаў у Беларусі. Урэшце, трэці элемэнт – гэта пасьлядоўная падтрымка беларускае незалежнасьці. Беларуская незалежнасьць зьяўляецца каштоўнасьцю самой у сабе. Лічым, што беларускі народ заслужыў на тое, каб мець сваю, незалежную й сувэрэнную дзяржаву, хацяб, з увагі на шматвяковую гісторыю, з увагі на цярпеньні ў савецкі час ці падчас II сусьветнай вайны. Гэта Беларусам належыцца й таму, што маюць яны цудоўную традыцыю й цудоўную культуру, а таксама таму, што ўсё большая іх частка сваімі паводзінамі, сваім жыцьцём, сваёй актыўнасьцю даказвае, што гэтая незалежнасьць для іх вельмі важная.

Гэта – яшчэ раз прыгадаю – тры элемэнты: абарона незалежнасьці, абарона правоў чалавека й прынцып неізаляваньня Беларусі.

***Часта афіцыйны Менск успрымае гэта як умешваньне ва ўнутраныя справы Беларусі...***

Старая польская прыказка, якая добра вядомая таксама і ў Беларусі, гаворыць, што сапраўдных сяброў пазнаецца ў бядзе. Я сапраўды не жадаў-бы ні Беларусам, ні Беларусі, каб дачакалі гэтай бяды, калі маглі-б пераканацца, хто іх сапраўдны прыяцель, а хто не.

***Спадар міністар, і апошняе пытаньне на заканчэньне нашае размовы. Ці ў бліжэйшым часе адбудзецца ўсё-ж такі візыт у Польшчу міністра замезных справаў Расейскае Фэдэрацыі Ігара Іванова?***

Я спадзяюся, што адбудзецца ня толькі візыт міністра замежных справаў, але таксама й новага прэм'ера, а можа й новага прэзыдэнта. Здаецца мне, што зараз Расейцы выпрацоўваюць сваю палітыку ў адносінах да Цэнтральнае Эўропы й што ня будзе гэта палітыка імпэрскае дамінацыі, а палітыка пошукаў партнэрства. Я хутчэй за ўсё аптыміст.

***размаўляў Яраслаў Іванюк.***

**Выпісвайце і чытайце "Беларускі Дайджэст"!!!**

 

# Бітва за Беларусь

На мінулым тыдні беларуская апазыцыя ня стала падпальваць будынак парлямэнта, як гэта зрабілі іх сэрбскія калегі тыдзень таму. Яны ня сталі разбураць будынкі дзяржаўнага тэлебачаньня з дапамогай бульдозэра і пакінулі ў спакоі асноўныя дзяржаўныя ўстановы. Нічога гэтага не было. Народ, які жыве пад ігам апошняга эўрапейскага дыктатара, сустрэў парлямэнцкія выбары моўчкі. Апазыцыйныя партыі заклікалі грамадзянаў да байкоту. Тое, пра што апошнія ня здолелі заявіць ля выбарчых скрыняў, было сказана замест іх міжнароднай супольнасьцю. Амэрыканскі Дзяржэдпартамэнт аб'явіў выбары "несправядлівымі, несвабоднымі і непразрыстымі", указаўшы на шматлікія парушэньні з боку рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Арганізацыя па Бясьпецы і Супрацоўніцтву ў Эўропе (АБСЭ), Рада Эўропы, Эўрапарлямэнт і Эўразьвяз адказалі тым самым. Прыхільнікі дыктатуры заваявалі практычна ўсе 43 мейсцы па акругах, дзе пераможца вызначыўся ў першым туры. Там, дзе аднога тура было недастаткова, пройдзе яшчэ адзін – 26 кастрычніка. Ён дасьць дыктатару магчымасьць у чарговы раз прадэманстраваць сваё ўнікальныя выбарчыя здольнасьці. У шматлікіх гарадох у сувязі зь нізкай яўкай выбарнікаў у першым туры, што апазыцыя ахарактарызавала як сваю перамогу, на працягу бліжэйшых трох месяцаў пройдуць перавыбары.

Што можа прымусіць беларусаў адправіць свайго прэзыдэнта за Слабаданам Мілошавічам у палітычнае забыцьцё пад час прэзыдэнцкіх выбараў 2001г.? "Я ня ведаю як у народа атрымліваецца выжываць у такіх умовах. Каля 48,5% жыве за рысай беднасьці," – адзначыў міжнародны каардынатар Хартыі'97 Андрэй Саньнікаў у інтэрв'ю Вашынгтон Таймс: "У сельскае мясцовасьці лічба дасягае 60%. У любой іншай краіне грамадзтва даўно б выбухнула. Тут да таго часу пакуль няма вайны ніхто не варухне і пальцам".

Нягледзячы на гэта, беларусы становяцца ўсё больш неспакойнымі. Каля 50% ня вызначыліся, каго яны падтрымліваюць, 90% незадаволеныя палітыкай Лукашэнкі і ўзроўнем свайго жыцьця, кажа сп. Саньнікаў. Палітыка прэзыдэнта на пярэдадні парлямэнцкіх выбараў не зьмяніла агульнае карціны. За тры дні да выбараў старшыня АБСЭ Крыс Сміт пералічыў некалькі прычынаў, чаму беларусам трэба выйсьці на вуліцы: "З 30 жніўня рэжым Лукашэнкі адмовіў у рэгістрацыі кандыдатам ад апазыцыі на вельмі сумнiўнай падставе. Міліцыяй было затрымана, аштрафавана і зьбіта звыш 100 чалавек за байкот выбараў, зьдзейсьнены напад на штаб-кватэру апазыцыйнае партыі і канфіскавана 100.000 экзэмпляраў незалежнага выданьня.

Сп. Саньнікаў, былы намесьнік Міністра замежных справаў, і сам падвергся нападу больш за год таму. Невядомыя зьбілі яго да страты прытомнасьці, зламалі нос і рэбры. Па ягоным уласным перакананьні акцыя помсты была справакаваная уладамі. Ён, як і іншыя апазыцыйныя дзеячы, жадалі б пазьбегнуць такога надалей. У выпадку, калі апазыцыя здолее аб'яднацца за сьпіной адзінага магутнага лідэра, вайна перастане быць абавязковай умовай для правядзеньня дэмакратычных рэформаў, і Лукашэнка нарэшце зразумее, што асуджаны рэжым, а не дэмакратыя.

Вашынгтон Таймс, 19 кастрычніка

# Навошта мы сябе мучым?

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Менавіта такое пытанне ўзьнікае, калі знаёмішся з дадзенымі афіцыйнай статыстыкі наконт памераў налічанай заработнай платы ў галінах народнай гаспадаркі і кіравання.**

Вось, прыкладам, усе лічаць, што самыя гаротныя ў нас — гэта калгаснікі.

Але ж у іх і свая бульбіна, і калі не ленавацца, то і скварка, і да скваркі. А як жыць чынавенству, калі хабар не браць? Прыкладам, сярэдні налічаны мінімальны заробак у служачых апарата дзяржкіравання склаў у жнівені крыху больш за 70 тысяч рублёў. Гэта нашмат меней не толькі заробкаў у банках, але і на паветраным транспарце, на будоўлі і ў прамысловасці. Падкрэслім, што гэта менавіта намінальная налічаная зарплата. А што тычыцца рэальнай (гэта значыць пералічанай з улікам індэкса спажывецкіх цэнаў), то яна ў дзяржчынавенства ў параўнанні са студзенем гэтага года ў верасні склала ўсяго 83%, хоць у цэлым па народнай гаспадарцы павялічылася, як падлічыў мінстат, на 15%. А ў працаўнікоў палёў і фермаў — нават на 31%. Але і пры гэтым у калгаснікаў сярэдні налічаны заробак у жніўні не дасягнуў 41-е тысячы.

Увогуле, нягледзячы на тое, што Лукашэнка паабяцаў падвысіць пра цоўныя даходы насельніцтва ў сярэднім да 100 долараў, у верасні ўсё выйшла наадварот: сярэдняя рэальная зарплата па народнай гаспадарцы скарацілася супраць жнівеньскай на 3,2%. Праўда, грошай налічылі на 3,4% болей, але гэты прыварак, як і заўжды, з'ела інфляцыя. Таму застаецца толькі гадаць, як хутка наступіць тая часіна, калі нашыя жабракі стануць мільянерамі ў двойчы дэнамінаваных рублях. Мусіць к прэзыдэнцкім выбарам. А ўвогуле, гледзячы на ўсе гэтыя лічбы, задаешся пытаннем: навошта мы мучым адзін аднаго? Тыя ж чыноўнікі, калі яны сапраўды не бяруць хабару, яны ж не могуць кіраваць даручанымі аб'ектамі і людзьмі. Бо, прыйшоўшы на працу, змушаны думаць пра тое, дзе б перахапіць тысячудругую да палучкі. І гэта пры тым, што ў залежнасці ад пасады той ці іншы чыноўнік можа чалавека адправіць за краты ці, наадварот, «адмазаць» ад турмы. Спакуса якая: не стаў «галачку» і трымай грошы. А іншыя распараджаюцца дзяржмаёмасцю на мільёны і мільярды, не маючы за душой ані долара. Як тут стрымацца. Мусіць барацьба з карупцыяй будзе вечнай. Вось і лічбы пра гэта сведчаць. За студзень — верасень гэтага года ў параўнанні з адпаведным тэрмінам мінулага колькасць эканамічных злачынстваў павялічылася на 2,5% і дасягнула 19,1 тысячы выпадкаў. У буйных ды асоба буйных памерах здзейснена 1.437 злачынстваў, што на 7,6% болей. Такім чынам, эканамічная злачыннасць расце хутчэй, чым валавы ўнутраны прадукт (ВУП). Калі так пойдзе і далей, то пра Беларусь будуць казаць як пра краіну, у якой жывуць адны зладзюгі. Акрамя аднаго вельмі адметнага барацьбіта з мафіяй. А тым часам узнікае пытанне: навошта ён? Навошта ён, бедны, працуючы, як сам не раз казаў, за малыя грошы, нас мучыць, а мы, атрымліваючы яшчэ меней, яго? Няма адказу. Але нейкае адчуванне ненармальнасці сітуацыі ўсё ж такі ёсць. Бо беларусы часцей адмаўляюцца з'яўляцца на гэты свет, чым пакідаць яго. Мо таму з пачатку новага года па прычыне перавагі колькасці памерлых над народжанымі нас стала меней амаль на 20 тысяч, і зараз у Беларусі жыве столькі людзей, колькі было у 1986, да Чарнобыля: 9.999,6 тысячы чалавек. І чаго чакаць лепшага, калі напрыканцы тысячагоддзя колькасць захворванняў на сухоты, гэтую хваробу бедных і знясіленых людзей, у Гомельскай вобласці павялічылася супраць мінулага года на трэціну…

Беднасць вядзе спачатку да наркотыкаў, затым да галечы, пасля да хваробы і смерці. Дык навошта мы сябе мучым?..

Колькасць зарэгістраваных шлюбаў змяншаецца, а колькасць разводаў расце. Так, колькасць першых упала на 4.809 (на 10,7%), другіх павялічылася на 515 (на 1,7%). Таму пагоршыліся суадносіны зарэгістраваных і скасаваных шлюбаў: у студзені—жніўні 2000 года на 1.000 шлюбаў выпадала 764 разводы (у студзені—жніўні 1999 года — 671). Не жыццё – адныя пакуты.

# Фільм пра Чарнобыль здымае *BBC*

Бі-Бі-Сі пазнаёміць Захад з нашымі нявырашанымі праблемамі

Супрацоўнікі *BBC* Робін Айткен і Браян Ставелей здымаюць дакументальны фільм пра Чарнобыль. Гэты 30-хвілінны матэрыял для снежаньскага спецвыпуску і 4 паведамленні па праблемах Чарнобыльскай АЭС журналісты рыхтуюць для BBC *Word Service*.

Праект ажыццяўляецца пры падтрымцы Кінгстанскага універсітэта ў Лондане і беларускіх студэнтаў з Еўрапейскага маладзёжнага парламента. Журналісты цягам 12 дзён зробяць шэраг інтэрв'ю з вядомымі вучонымі, прадстаўнікамі міністэрства энергетыкі, ліквідатарамі, жыхарамі забруджаных тэрыторыяў, медыкамі, працаўнікамі інтэрнатаў для сіротаў.

Робін Айткен і Браян Ставелей плануюць разгледзець праблемы ўжывання прадуктаў з недапушчальным зместам радыенуклідаў, недастатковай інфармаванасці пра ўплыў радыяцыі на стан здароўя.

**BARC**

# Незалежнае выданне – кожнай сям'і

Тэму «Незалежная прэса: роля і месца ў сучасным грамадстве; шляхі выжывання» абмеркавалі 25-га кастрычніка ў Мінску падчас «круглага стала», арганізаванага БАЖ, галоўныя рэдактары недзяржаўных газетаў. На сход былі таксама запрошаныя прадстаўнік АБСЕ Эндру Карпентэр і апазіцыйныя лідэры.

Была ўзнятая галоўная праблема незалежных выдаўцоў — перарэгістрацыя. Усе газеты мусяць прайсці гэтую працэдуру да 1 студзеня 2001 года. Рэдактары маюць падставы меркаваць, што пасля перарэгістрацыі колькасць недзяржаўных газетаў істотна скароціцца. Каб не дапусціць гэтага, рэдактары вырашылі звярнуцца да міжнародных арганізацыяў, у тым ліку і да АБСЕ, з заклікам паўплываць на сітуацыю.

**БелаПАН**

## АЛЯКСАНДАР КВАСЬНЕЎСКІ Выбраны Прэзыдэнтам Польшчы

Аляксандар Квасьнеўскі атрымаў ад старшыні Дзяржаўнай выбарчай камісіі ўхвалу, дзе сьцьвярджаюцца ягоныя прэзыдэнцкія паўнамоцтвы на наступны тэрмін. Цяперашні прэзыдэнт Польшчы атрымаў у першым туры выбараў 53,9% падтрымкі. Ягоны бліжэйшы супернік Анджэй Алехоўскі атрымаў 17,3%, а за Марыяна Кшаклеўскага, які апынуўся на трэцім мейсцы, прагаласавала 15,57% выбаршчыкаў. Паводле польскага заканадаўства, Найвышэйшы суд на працягу 30 дзён мусіць падцьвердзіць сапраўднасьць выбараў прэзыдэнта, таму прыняцьцё Аляксандрам Квасьнеўскім прысягі заплянавана на 23-га сьнежня.

# Генэральны сакратар НАТО расчараваны беларускімі "выбарамі"

Генэральны сакратар НАТО Джордж Робэртсан пракамэнтаваў 23-га кастрычніка ў афіцыйным прэс-рэлізе сытуацыю ў Беларусі.

Сп. Робэртсан падкрэсьліў, што краіны, якія ўваходзяць у НАТО, расчараваныя ў выніках беларускіх выбараў у палату:

*"Беларусь удзельнічае ў "Партнэрстве дзеля міру". "Партнэрства" дэкляруе датрыманьне фундамэнтальных правоў і дэмакратычных прынцыпаў. Гэтыя стандарты неабходна ўжываць у адносінах да Беларусі. Парлямэнцкія выбары ў Беларусі не адпавядаюць гэтым прынцыпам... Мы расчараваныя ў выніках выбараў, таму што яны не спрыялі дэмакратычнаму разьвіцьцю Беларусі".*

## НОВЫ ГЭРБ, ГІМН і СЬЦЯГ…

На чарговай сэсіі Менскага гарадзкога Савету сталічныя дэпутаты абвясьцілі конкурс на новыя герб, гімн і сьцяг Менску. Такім чынам, знакамітая выява Панны Марыі, што 400 год лунала па-над горадам, рызыкуе стаць здабыткам гісторыі…

# Краіна старых

На 1 студзеня 2000 году колькасьць састарэлых людзей, старэйшых за 60 гадоў, перавысіла ў Беларусі колькасьць дзяцей у веку да 15 гадоў. Пра гэта як пра адну з дэмаграфічных і герыятрычных праблем Беларусі паведаміў на прэс-канфэрэнцыі ў Менску галоўны пазаштатны спецыяліст у герыятрыі Міністэрства аховы здароўя краіны Уладзімер Сыты.

## З АРХІЎНАГА КУФРА...



Сябры Беларускай Народнай Самапомачы, Менск, 1942 г. (?)

# Ворагі Расеі

Аляксандар ДУБРАВІН (Наша Свабода)

Ці ёсць у Расіі ворагі? Вядома ж, былі, ёсць і будуць. Супраціўленне невядомаму хітраму драпежнаму ворагу – аснова палітыкі Масквы ва ўсе часы. Інакш Расія проста перастане быць сама сабой. Аточаная прыдуманымі ворагамі імперыя перманентна знаходзіцца ў змаганні з самага пачатку свайго існавання. Калі ўнутраныя ворагі ў Расіі мяняюцца даволі часта (баяры, стральцы, дзекабрысты, паўстанцы, горцы, інтэлігенты, буржуі, касмапаліты, дысідэнты, масоны, сэпаратысты і г.д.), дык знешні супастат спрадвеку адзін. І хоць ён выступае пад рознымі абліччамі (Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, Францыя, Германія, ЗША і г.д), нам добра вядомае яго сапраўднае імя.

Гэты вораг – сусветная цывілізацыя, якая наступае на Маскву з Захаду і атаесамляецца з якой-небудзь магутнай краінай. Яна смяротна пужае фундаменталісцкіх праваслаўных святароў, візантыйскіх царскіх фараонаў, дзікуноў з сібірскіх мядзведжых куткоў. Цывілізацыя нясе новыя веды, тэхналогіі, філасофію, культуру. Яна спрыяе раптоўным якасным пераменам, да якіх імперыя павінна адчайна прыстасоўвацца, напружвацца, шукаць нейкія процівагі. І кожны раз пасля наступу цывілізацыі Расію калоціць ліхаманка, аслабляецца ўціск, а паднявольныя народы разбягаюцца ўбакі. Дык нашто перамены? Лепей сядзець у засадзе і адтуль пагражаць ворагам ракетай. Але так цывілізацыю не спыніш. Трэба ей шкодзіць, каб больш займалася ўласнымі праблемамі. Каб людзі на Захадзе сабачыліся паміж сабой. Таму Расія традыцыйна падтрымлівае дыктатарскія (накшталт нашага, лукашэнкаўскага) і людаедзкія рэжымы ва ўсім сьвеце, дае ім грошы і ўзбраеньні, і праз іх ажыцьцяўляе сваю экспансію. У Маскве гэта называецца палітыкай.

Зараз мы бачым вынікі гэтага курсу. Атрымаўшы паразу ў «халоднай» вайне, Масква выпусьціла са сваіх кіпцюроў тузін паднявольных народаў. Але імкнецца да рэваншу, бо ўсё яшчэ лічыць сябе звышдзяржавай. Зноў закінула ногі на Беларусь, прыладкоўваецца да Украіны. І у гэты момант з-пад носа ў яе выцягваюць Югаславію. Столькі намаганьняў, столькі грошай улажылі маскавіты ў крывавага Мілошавіча! І ўсё дарма!

Між тым еўрапейскія «левакі», якіх не першае дзесяцігоддзе корміць Масква, ставяць на вушы Прагу ў час паседжання МВФ (чаму не даюць Расіі новых крэдытаў?). Маскоўская марыянетка Ясір Арафат кідае сваіх людзей на разбурэнне іудзейскай святыні (калі палесцінцы ды ізраільцянцы паміраццa, як тады Расея будзе цісНуць на Амерыку?). Менавіта з такіх праяў і пачынаецца новае супроцьстаянне Масквы і сусветнай цывілізацыі. Расія не зрабіла высноваў, яна зноў шчэміцца на тыя самыя граблі.

Што ж, Трэці Рым, мабыць, лясне гэтак жа гучна, як і два першыя.

## У Сьвіслачы — бел-чырвона-белыя сьцягі

Сяргей МАКСІМОВІЧ

22-га кастрычніка ў Сьвіслачы адбыўся Ўсебеларускі фэст, прысьвечаны памяці нацыянальных герояў Беларускага вызвольнага руху 1863-64 гадоў.

Асабліва шмат сабралася моладзі. Былі ўскладзеныя кветкі да бюста Кастуся Каліноўскага і да помніка аднаго з кіраўнікоў паўстаньня Рамуальда Траўгута. Затым была ўшанавана магіла брата Кастуся Каліноўскага – Віктара.

Пасля калона з удзельнікамі фэсту выехала са Сьвіслачы ў Якушоўку, дзе знаходзяцца падмуркі сядзібы Каліноўскіх. Там каля памятнага крыжа прагучала некалькі прамоваў. Сярод іншых выступіў старшыня Каардынацыйнай рады «Рэгіянальная Беларусь» сябра Прэзідыума ВС 13-га скліканьня Сямён Домаш.

Напрыканцы фэсту ў Белавежскай пушчы адбыўся канцэрт бардаў, у якім узялі ўдзел Віктар Шалкевіч, Зміцер Бартосік, Андрэй Мельнікаў і Дзітэр Калька.

**HAPPY THANKSGIVING –**
**Жадаем нашым чытачом у ЗША…**

## Галанцы патрабуюць вяртаньня бязь вестак зьніклых палітыкаў

Жыхары галанскага горада Наатдорп зьвярнуліся з адкрытым лістом да прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім яны выказваюць занепакоенасьць лёсам бяз вестак зьніклых апазыцыйных дзеячоў: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Галанцкія грамадзяне патрабуюць ад прэзыдэнта РБ тэрміновага расьследаваньня прычынаў зьнікненьняў, вызначэньня месцазнаходжаньня бязь вестак зьніклых, допуск да іх родных і забесьпячэньня поўнай недатыкальнасьці ў выпадку ўтрыманьня пад вартай.

Адначасова з гэтым, жыхары Наатдорпа накіравалі ліст спачуваньня сем'ям зьніклых, у якім яны жадаюць хуткага вяртаньня іх родных і блізкіх, а таксама здароўя і мужнасьці членам іх сям'яў.

Пад тэкстам ліста паставілі свае подпісы звыш трохсот жыхароў галанскага Наатдорпа.

## Беларускія грошы -- самыя танныя

БелаПАН

Беларусь працягвае займаць першае месца сярод краінаў былога СССР па ступені абясцэньвання нацыянальнай валюты да долара ЗША. Такі вынік атрыманы падчас праведзенага БелаПАН параўнальнага аналізу афіцыйных курсаў нацыянальных валютаў гэтых дзяржаваў да долара ЗША, без уліку дэнамінацыі, якая ажыццяўлялася пры іх увядзенні або ўжо ў перыяд абароту.

Па стане на 4 кастрычніка ў пяцёрку краінаў з валютай, якая найбольш абясцэнілася, увайшлі Беларусь —

КУРС ДОЛАРА



